*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 31 ліпеня 1987 г. № 31 (3389) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

Янка БРЫЛЬ на Нёмане.

Фота А. КАЛЯДЫ.



**Нямнога ёсць пісьменнікаў, якія так адчуваюць прыгажосць і важкасць слова, у стане так перадаць адценні колераў, гукаў і адчуванняў, як робіць гэта ў сваёй лірычнай прозе Янка Брыль. Уся творчасць празаіка— пошук адвечнага харастава, пошук дабра і гармоніі ў жыцці і чалавечай душы.**

**4 жніўня народнаму пісьменніку Беларусі Івану Антонавічу Брылю спаўняецца 70 год. Матэрыялы, прысвечаныя творчасці Івана Антонавіча, чытайце на стар. 5—7.**



РЭПАРТАЖ У НУМАР

# СВЯТА БЕЛАРУСКА-РУСКАГА ПАБРАЦІМСТВА

**Перад уездам у вёску Выганічы, што ў двух кіламетрах ад Дома творчасці «Іслач», з нядаўняга часу стаіць помнік. Надпіс на ім сведчыць: у Выганічах у 1821—1822 гг. жыў рускі пісьменнік-дзекабрыст Аляксандр Бястужаў-Марлінскі. Гэта ён, адзін з трох братоў Бястужавых — актыўных удзельнікаў дзекабрысцкага руху, вывеў 14 снежня 1825 г. на Сенацкую плошчу Пецярбурга салдат і афіцэраў падначаленага яму Маскоўскага палка, «умышлял на цареубийство и истребление**



**императорской фамилии» (з абвінаваўчага акта). Гэта яго, аўтара і выдаўца (сумесна з К. Рылеевым) «Полярной звезды», аднаго з кіраўнікоў «Вольного общества любителей русской словесности», А. Пушкін назваў «представителем вкуса и верным стражем и покровителем нашей словесности». Гэта яму, шырокавядомаму ў свой час белетрысту, цікаваму паэту, крытыку і публіцысту, творы якога перавыдаюцца і зараз, «литература наша многим обязана» (В. Бялінскі).**

**Нядаўна на маляўнічай лясной паляне ля помніка А. Бястужаву-Марлінскаму Валожынскі культурна-спартыўны комплекс і раённае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры правялі свята, прысвечанае памяці гэтага выдатнага рускага рэвалюцыянера і пісьменніка. Святам-фэстам, у якім прынялі ўдзел не толькі жыхары Выганічаў і навакольных вёсак, але і многія адпачываючыя з «Іслачы», некалькіх тутэйшых санаторыяў і піянерскіх лагераў, адзначаны 190-я гадавіна з дня нараджэння і 150-я гадавіна з дня смерці А. Бястужава-Марлінскага.**

**Адкрыў свята намеснік старшыні Валожынскага райвыканкома, старшыня раённага культурна-спартыўнага комплексу В. Харук. Выступленні даследчыка жыцця і дзейнасці рускіх дзекабрыстаў у Беларусі С. Букчына, літаратуразнаўца В. Рагойшы, паэта са Стаўрапольскага краю Г. Фацеева, мясцовых краязнаўцаў-настаўнікаў В. Налецкага і Г. Равінскага перамяжоўваліся мастацкім словам, песнямі.**

**Гучалі творы А. Бястужава-Марлінскага, урыўкі з яго пісем, пасланых у свой час з Выганічаў родным і сябрам у Пецярбург, рускія і беларускія народныя песні ў выкананні самадзейных артыстаў Валожыншчыны.**

**Сярод самых зацікаўленых слухачоў былі і тыя, хто непасрэдна дапамог і адкрыццю помніка пісьменніку-дзекабрысту (дарэчы, другога ў Савецкім Саюзе), і правядзенню гэтага свята: сакратар Валожынскага райкома партыі Н. Пташнік, старшыня Ракаўскага сельсавета І. Тамковіч, старшыня мясцовага саўгаса «Праца» М. Каваленка. Былі выказаны прапановы праводзіць такі народны фэст рэгулярна, перайменаваць саўгас «Праца» ў саўгас імя Аляксандра Бястужава, а таксама ўвекавечыць іншыя выдатныя мясціны Валожыншчыны помнікамі і памятнымі знакамі.**

**Скончылася ўрачыстая частка свята, якое ператварылася ў яскравую дэманстрацыю беларуска-рускага духоўнага пабрацімства. Аднак людзі доўга не разыходзіліся. Працавалі кніжны, прадуктовы і прамтаварны кіёскі. Праводзілася бяспройгрышная латарэя. Праходзілі спартыўныя спаборніцтвы. Гучала музыка. Ажыўлена было ля кніжнай выстаўкі пра жыццё і творчасць А. Бястужава-Марлінскага.**

**А над палянаю ў бязвоблачным небе кружылі буслы. Яны ўзняліся з недалёкай адгэтуль бусляні, што месціцца побач з высокім падмуркам былой хаты Франца Вайдзевіча. Хаты, дзе роўна сто шэсцьдзесят пяць гадоў таму назад быў як родны прыняты на пастой малады паручнік Бястужаў.**

**В. КАЧАНОВІЧ.**

## ПАМЯЦІ ГЕНЕРАЛА -ГЕРОЯ

**Генерал-лейтэнант Якаў Сцяпанавіч Факанаў, дывізія якога вызваляла Жлобін, назаўсюды застаўся ва ўдзячнай памяці жлобінцаў — яго імя прысвоена адной з вуліц раённага цэнтра, на першым доме якой устаноўлена мемарыяльная дошка.**

**У сувязі з гэтым адбыўся ўрачысты мітынг. На яго быў запрошаны і пісьменнік-зямляк Аляксандр Капусцін — аўтар аповесці «Салёная раса», адным з герояў якой з'яўляецца генерал Я. Факанаў.**

**В. ЦЯРЭШКА.**



Спектакль «Апошні журавель» па п'есе А. Дударава і А. Жука. Сцяпан Дзямідчык заслужаны артыст ЯАССР А. Кузняцоў (справа).

**гадоў не сыходзіць са сцэны спектакль «А раніцой яны прачнуліся...» В. Шукшына. Не падобны адна на другую камедыі «У гэтай дзяўчыне нешта ёсць...» Г. Рабкіна і «Восем жанчын закаханых» Р. Тама.**

**Спектакль «Іван і мадонна» па п'есе беларускага драматурга А. Кудраўцава ўвайшоў у лік лепшых спектакляў Расійскай Федэрацыі, прысвечаных 40-годдзю Перамогі. Спецыяльна для гастроляў у Беларусі падрыхтаваны спектакль «Апошні журавель» А. Дударава і А. Жука.**

**Некалькі спектакляў адрасуецца дзецям.**

**Мінчан і гасцей сталіцы рэспублікі чакае сустрэча з многімі вядомымі акцёрамі. У калектыве працуюць майстры тэатральнага мастацтва Якуцкай АССР — народная артыстка РСФСР і ЯАССР Н. Канстанцінава, народны артыст ЯАССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя П. Айунскага В. Антонаў, заслужаныя артысты ЯАССР А. Кузняцоў, Б. Пяньноў, Г. Навасёлава і іншыя.**

**І. ПАДОЙНІЦЫН, дырэктар тэатра.**




# СЛОВА ЁСЦЬ СПРАВА

Слова ёсць справа... Формула гэтая нарадзілася не сёння. Але менавіта сёння яна набывае асабліва важнае, а для дзеячаў літаратуры, дык і выключнае значэнне.

Са словам у першую чаргу асацыіруецца паняцце галоснасці, а значыць, і дэмакратыі, бо без першай немагчыма другая. Галоснасць—адзін з рычагоў перабудовы. Яна — актыўны і дзейсны генератар ідэй, думак, прапаноў. У галоснасці заключана энергія дзейнасці, якую трэба будзе вызваліць у працэсе перабудовы сацыяльна-эканамічных адносін у краіне. Галоснасць, урэшце,—галоўная, калі не адзіная гарантыя паспяховага прадаўжэння працэсаў абнаўлення. Таму, натуральна, яе трэба паўсюль і ўсямерна пашыраць і паглыбляць, павялічваць яе ўдзельную вагу ў нашым грамадскім жыцці.

Слова ёсць справа... Мы павінны вярнуць сёння гэтай старой формуле яе сапраўднае значэнне. Надаць заключанаму ў ёй сэнсу канструктыўную вагу. Слова, прамоўленае ці напісанае, павінна быць гранічна шчырым і праўдзівым, хоць, можа быць, для некага і не надта прыемным. І прамаўляцца, пісацца яно павінна з усведамленнем адказнасці. Адказнасці асабістай. Мы вымушаны ў многім вучыцца гэтаму нанава, бо за дзесяткі гадоў прызвычаіліся чытаць і чуць вельмі шмат слоў, не забяспечаных аніякай адказнасцю, аніякім запасам чалавечай сумленнасці, шчырасці, праўдзівасці. Мы прызвычаіліся да слоў-бурбалак, да слоў-бразготак. І вось цяпер мы вяртаем цану слову. Толькі сёння мы зноў пачынаем вучыцца разуменню таго, што могуць выказвацца розныя думкі і меркаванні і што гэта не дрэнна, а добра; што трэба слухаць і прыслухоўвацца да апанента, паважаць думку іншага; што без гэтай свабоднай цыркуляцыі меркаванняў, сутыкнення непадобных пунктаў гледжання, без магчымасці альтэрнатыўных рашэнняў не можа быць здаровай грамадскай думкі наогул.

Слова ёсць справа... Калі мы гаворым сёння пра вяртанне сапраўднай вагі і цаны слову, дык маем на ўвазе перш за ўсё вяртанне павагі да чалавека, які—за словам. Разгортваць працэс дэмакратызацыі, галоснасці—гэта значыць, уключаць актыўнасць, зацікаўленасць чалавека ва ўсіх працэсах нашага жыцця. Задача ў тым, каб разбудзіць па-сапраўднаму чалавека і выкарыстаць яго багаты палітычны, культурны, навуковы патэнцыял, набыты ў нашым грамадстве за гады Савецкай улады. Гэта пазбавіць нас ад многіх памылак і з'явіцца гарантыяй таго, што перабудова будзе набываць рэальную сілу, ва ўсё большай ступені рабіцца незваротнай. Самае цяжкае—гэта перабудова ў ідэалагічнай, духоўнай сферы. Як пойдзе справа ў сферы дэмакратыі, у духоўнай сферы, так пойдзе і перабудова...

Гэтыя думкі былі выказаны і неаднаразова падкрэслены ў часе нядаўняй (ужо другой сёлета) сустрэчы ў ЦК КПСС з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і творчых саюзаў. Справаздача з сустрэчы была апублікавана пад паказальнай назваю: «Практычнымі справамі паглыбляць перабудову». На сустрэчы з вялікай прамовай выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў. Ахарактарызаваўшы сённяшні стан спраў, звязаных з перабудовай, ён адзначыў, што надыходзіць яе новы этап—этап канструктыўнай, практычнай работы. Створаны прадпасылкі для таго, каб перабудова разгортвалася на новай базе: палітычнай, ідэалагічнай, маральнай, эканамічнай, прававой. «Калі мы згодны з тым, што мы стварылі прадпасылкі, аб якіх ішла размова,—падкрэсліў М. С. Гарбачоў,—то сёння наступае самы, можа быць, адказны момант. Цяпер трэба ўсё ўвасобіць у жыццё. А гэта значыць, што мільёны, дзесяткі мільёнаў людзей будуць удзельнічаць у велізарнейшай справе. Гэта ж сапраўдная рэвалюцыя, у тым ліку—у розумах, у мысленні, у падыходах да справы. А Ленін, як вядома, папярэджваў, што з рэвалюцыяй жартаваць нельга, нельга гуляць у рэвалюцыю. Калі мы ўжо ўзяліся за яе, то трэба весці справу па-сапраўднаму, з велізарным пачуццём адказнасці і разумення таго, што прамаруджанне ў рэалізацыі цяпер ужо вырашаных пытанняў—пэўных, выпрацаваных нашай праграмай перабудовы—смерці падобна». І далей: «Таму для нас галоўнае цяпер—дзейнічаць і дзейнічаць, энергічна і мэтанакіравана; шукаць рэзервы, крытыкаваць промахі, недахопы і разам з тым падтрымліваць новае, канструктыўнае; развіваць актыўнасць, ініцыятыву, паглыбляць дэмакратыю і публічнасць, гэта значыць тое, што ўмацоўвае атмасферу перабудовы, садзейнічае паскарэнню нашага сацыяльна-эканамічнага развіцця, весці пошук новых форм работы, якія развівалі б усё больш шырокі ўдзел народа, мільёнаў працоўных. У гэтым сацыяльна-палітычная сутнасць цяперашняга этапу перабудовы».

У гэтай вялікай рабоце знойдзецца, ёсць справа і работнікам сродкаў масавай інфармацыі, і дзеячам літаратуры і мастацтва. Пісьменнікі, мастакі, кампазітары, дзеячы тэатра і кіно не павінны быць сузіральнікамі падзей. Яны павінны быць на пярэднім краі перабудовы, не на словах, а на справе жыць адным жыццём з народам, ставіць інтарэсы народа вышэй за ўсё.

Партыя служыць народу. Савецкая літаратура таксама служыць народу. А ў народа ёсць вельмі добрая якасць: яго ніколі не падманеш. Нагадаўшы пра гэта, М. С. Гарбачоў падкрэсліў: «Калі мы з вамі «ружовае» святло на жыццё напускалі, народ усё бачыў і страчваў цікавасць да прэсы, да грамадскай дзейнасці. І лічыў, што яго проста ўніжаюць, зневажаюць, калі падсоўваюць «ліпу»: ён жа ведае рэальнае жыццё, тое, як ёсць на самай справе... Цяпер усё трэба праз дэмакратычны працэс паставіць на сваё месца. Ёсць адна рашаючая сіла—народ. Ён вылучае і кадры, і правадыроў, і лідэраў, і літаратараў... З народа ўсё нараджаецца і ў народ вяртаецца».

Генеральны сакратар ЦК КПСС заклікаў субяседнікаў, а ў іхняй асобе ўсіх работнікаў друку, радыё і тэлебачання, усіх пісьменнікаў і літаратараў ва ўвесь голас гаварыць аб Кастрычніку, аб сацыялізме, аб тым, хто мы ёсць, адкуль мы і што маем у выніку рэвалюцыі і развіцця сацыялізму; сур'ёзна, без сенсацый, адказна пісаць і аб нашых днях, аб перабудове, шырока і ўсебакова паказваць тых, хто сумленна працуе, хто клапоціцца аб чалавеку, аб людзях, аб самых простых рэчах, у самай глыбінцы і ў цэнтры, і выкрываць, выводзіць на чыстую ваду тых, хто замінае, шкодзіць перабудове, нашаму руху наперад...

Працэсы, якія зараз адбываюцца ў нашай краіне, выклікаюць шырокую цікавасць у свеце. Словы «перабудова» і «галоснасць» увайшлі ў многія мовы свету без перакладу, як у свой час словы «савет» і «спутнік». І гэтая цікавасць невыпадковая. Справа ў тым, што слова «перабудова» — у шырокім значэнні—адлюстроўвае не толькі нашы ўнутраныя праблемы. Можна сказаць, што ўвесь свет мае патрэбу ў перабудове, у якасных зменах, у прагрэсіўным развіцці.

У сувязі з гэтым нельга не згадаць і сяброўскую сустрэчу Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова з выдатным лацінаамерыканскім пісьменнікам Габрыэлем Гарсія Маркесам. Міхаіл Сяргеевіч расказаў госцю пра намаганні партыі і савецкага народа падняць наша грамадства на больш высокую ступень, надаць яму новую якасць на аснове каштоўнасцей сацыялізму і агульначалавечых каштоўнасцей; пра тое, што наша знешняя палітыка—працяг нашай унутранай палітыкі, што і ў ёй мы робім прыярытэтнымі інтарэсы чалавека, гуманістычныя каштоўнасці; пра тое, што перабудова патрэбна не толькі нам, але і свету, перапоўненаму ядзернай зброяй, свету, дзе ёсць сур'ёзныя эканамічныя, экалагічныя праблемы, дзе ёсць гора, несправядлівасць, голад, хваробы.

«Мы лічым,—сказаў у часе сустрэчы М. С. Гарбачоў,—што трэба вучыцца спалучаць нацыянальныя інтарэсы з агульначалавечымі задачамі. У нашай палітыцы няма двайнога дна. Наша сумленне чыстае. Наша філасофія міжнародных адносін не супярэчыць здароваму сэнсу. Яна заснавана на глыбокім навуковым аналізе працэсаў і на строгім уліку інтарэсаў працоўнага народа. Яе мы і прапануем усяму свету. Яшчэ раз падкрэслю: прапануем, ні ў якім выпадку не навязваем. Мы бачым, што наша палітыка выклікае не проста цікавасць, а глыбокую зацікаўленасць. Свет стаміўся ад напружанасці, усе імкнуцца да лепшага».

У заключэнне М. С. Гарбачоў сказаў: «У сучасных умовах, калі свет як бы знаходзіцца на гістарычным скрыжаванні, слова аўтарытэтных дзеячаў сусветнай культуры мае велізарнейшае значэнне. Яно мацнейшае за зброю. Яно дапамагае зразумець, куды пойдзе свет, як яго будаваць, як зберагчы цывілізацыю і жыццё на Зямлі».

Слова і сапраўды ёсць справа!

**ВІНШУЕМ**

# Янку Брылю—70

Спаўняецца 70 год народнаму пісьменніку Беларусі Янку Брылю. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала юбіляру прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагі Іван Антонавіч!**

**Горача і сардэчна віншуем Вас, аднаго з найбольш яркіх прадстаўнікоў сучаснай беларускай літаратуры, народнага пісьменніка рэспублікі з 70-годдзем з дня нараджэння.**

**Пяцьдзесят гадоў глыбокім і пранікнёным словам Вы служыце народу, з гушчы якога выйшлі і самі. Адтуль і Вашы літаратурныя героі. Гэта сяляне, інтэлігенты, воіны, партыйныя і дзяржаўныя дзеячы — гаспадары і абаронцы роднага краю. Яны адметныя нацыянальным характарам, надзелены народнай мудрасцю, заўсёды ў пошуку ісціны, у барацьбе за праўду. У іх — многа ад Вашага характару, чалавека, які востра ўспрымае праявы жыцця, ніколі не бывае ў баку ад яго. Вашы героі вылучаюцца асаблівай унутранай дабрынёй і спагадай да іншых, разважлівасцю і самаадданасцю. Іх не зблытаеш з героямі іншых пісьменнікаў, як не зблытаеш і Ваш, брылёўскі, стыль, Вашу рамантычнасць апавядальніка і прытоены смутак лірыка. Многія Вашы творы сталі хрэстаматыйнымі.**

**За шчодры творчы век Вы напісалі дзесяткі кніг, нарысаў, апавяданняў, аповесцей, раманаў, літаратурна-крытычных артыкулаў, кнігі «сонечных промняў», як удала назвалі Вы сабраныя россыпы народных досціпаў, назіранняў і выказванняў, убачаных і падслуханых сярод людзей, уласных дум і разваг.**

**Асобна нельга не сказаць пра кнігу «Я з вогненнай вёскі...», напісаную ў сааўтарстве з А. Адамовічам і У. Калеснікам. Яна — пра людзей з вёсак, сясцёр Хатыні. Кніга шырока пайшла па свеце расказваць пра наш нясцерпны боль і нязломнасць, пра веліч беларуса ў яго мужнасці і няскоранасці перад ворагам.**

**Шырока вядомы Вы і як перакладчык з рускай, украінскай, польскай моў.**

**Актыўная грамадзянская пазіцыя пісьменніка заўсёды спалучалася і спалучаецца ў Вас з актыўнай грамадскай дзейнасцю. Вы былі дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, сакратаром праўленя Саюза пісьменнікаў рэспублікі, членам праўлення СП СССР, з'яўляецеся членам Беларускага камітэта абароны міру, старшынёй Беларускага аддзялення таварыства «СССР — Канада», членам прэзідыума СП БССР, членам рэдсавета выдавецтва «Мастацкая літаратура», членам рэдкалегій часопіса «Полымя» і альманаха «Далягляды».**

**За поспехі ў развіцці беларускай савецкай літаратуры Вам прысвоена званне народнага пісьменніка БССР, Вы — лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа, узнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі нашай краіны, а таксама медалямі братняй Польшчы.**

**Мы радуемся Вашай творчай актыўнасці. Важкае брылёўскае слова надзейна служыць роднай культуры.**

**Жадаем Вам, дарагі Іван Антонавіч, моцнага здароўя, вялікага асабістага шчасця, новых таленавітых кніг!».**

Супрацоўнікі штотыднёвіка далучаюцца да гэтага віншавання.

# Мудрая сталасць, сталая мудрасць

ГАДЫ бягуць неўпрыцям...

Вось ужо і Янку Брылю семдзесят, і амаль паўста з іх аддадзена літаратуры.

Адкінем падхалімскую няшчырасць не так ужо і далёкага часу, калі семдзесят год лічыліся сярэднім узростам, — скажам з павагаю да пражытых Янкам Брылём гадоў: узрост паважны, салідны. А калі ўлічыць яшчэ шэсць гадоў другой сусветнай вайны, усё, што перажыта, пабачана і адчута, калі дадаць да гэтага сірочую долю і няўладжанасць пасляваеннага жыцця, дык узроставы цэнз, згодна ваенным залікам тры дні за адзін, сягне аж у наступнае стагоддзе.

Кажу гэта не дзеля таго, каб нагадаць незваротнасць пражытых гадоў, наадварот, каб падкрэсліць чалавечую трывучасць, творчую і духоўную Брылёву мудрасць, выспеленую нашым складаным і супярэчлівым жыццём.

Ёсць мудрая сталасць і сталая мудрасць. Яны не заўсёды супадаюць. Жывуць і без іх. Але калі ўжо і супадаюць, — перад намі той талент, які дорыць людзям багацце думак і прыгажосць душы.

У яго было два маленствы, з якіх ён неяк адразу сягнуў у сталасць, як, *зрэшты*, не пахадзіўшы ў маладых пісьменніках, адразу стаў вядомым і сталым. Так, прынамсі, успрымаў Янку Брыля я ў тыя пасляваенныя гады, калі ў друку адзін за адным пачалі паяўляцца празрыста-чыстыя, глыбокія і вельмі простыя, як само жыццё, ягоныя апавяданні. І зараз памятаю ўражанне ад непаўторнасці ягонай мовы, ад нязвычнасці апавядальнай манеры, ад герояў, такіх знаёмых і як бы занава адкрытых для цябе шчодрай пісьменніцкай палітрай.

«Найвышэйшая форма пісьменніцкай справаздачы перад народам — кнігі. Пра гэта трэба думаць найбольш, пільна аберагаць свой час і сілы для галоўнага. Бо самотна і горка бывае ад думак, што мала і слаба табою напісана!..».

Прызнанне гэтае належыць саракапяцігадоваму Янку Брылю. Яно — сведчанне мастакоўскага непакою і бескампраміснай адказнасці перад сабою і часам. А ўжо на той час зроблена было шмат і, дай бог, як кажуць, кожнаму такога мастацкага ўзроўню: два тамы выбраных твораў, у якія ўвайшлі такія і ўжо хрэстаматыйныя апавяданні, як «Марыля», «Праведнікі і зладзеі», «Галя», «Маці», аповесці «У Забалоцці днее», «На Быстранцы», «Апошняя сустрэча», і ўжо ў задуме ды і на паперы ствараўся раман «Птушкі і гнёзды» — адзін з выдатных і непаўторных твораў аб вайне.

Тут справа нават не ў Брылёвай сціпласці — ён ніколі не здраджваў ёй,— а ў разуменні таго, што талент грэшна марнаваць на пустыя дрындушкі або кан'юнктурны шырпатрэб, які з ліхвою акупіцца ўзнагародамі, званнямі і бурапеністай славай. Што б ні пісаў Янка Брыль: раман, аповесць, навелу, эсэ, нарыс або кароценькую, на некалькі радкоў мініяцюру, ён найперш закладаў у іх фундамент шчымлівую, неспакойную думку, якая трывожыла яго і павінна была трывожыць іншых. Найчасцей думка гэтая абганяла час і прывычныя ўяўленні, тады над Янкам Брылём раздражнёна грымелі грымоты ярлычнай крытыкі, а ён, заўсёды ўраўнаважаны, слухаў яе з той зайздроснай цярпімасцю, на якую здольны толькі цярплівы беларус.

Не ў юбілейныя дні нагадваць бы пра тыя завіхрэнні — паасцерагуся называць іх бурамі, — што ўзнікалі вакол ягоных многіх твораў, але ж і не цяпер замоўчваць іх, рабіць выгляд, быццам народнаму пісьменніку Беларусі, лаўрэату Дзяржаўных прэмій СССР і БССР *ішлося па дывановых дарожках* пад гукі духавога аркестра.

І аповесці «На Быстранцы» і «Апошняя сустрэча», і, асабліва, раман «Птушкі і гнёзды», якія абвінавачвалі ў скажэнні рэчаіснасці і яшчэ чорт ведае ў чым, засталіся творамі наватарскімі, праўдзівымі, глыбокімі, а тая іх крытыка, калі і засталася ў каго на памяці, дык як недарэчнасць і ўзор безгустоўшчыны і прадузятасці.

Пра творчасць Янкі Брыля напісана шмат, і не мне цягацца са слыннымі прафесіяналамі ў літаратуразнаўстве і крытыцы, але не магу не запыніцца на ягоным рамане «Птушкі і гнёзды», які ў нашы дні часам абыходзяць пры разглядзе сапраўды неабдымнай беларускай літаратуры аб вайне. А ён быў і застаецца з'явай адметнай, выключнай і непаўторнай.

Не ведаю, але мне той, часопісны, варыянт і дасюль даражэй і бліжэй за кніжны, дапрацаваны і перапрацаваны, добра ўгледжаны руплівай пісьменніцкай рукой. Бывае ж такое, нешта ляжа на душу і ўжо *нішто* не зрушыць яго з месца. Вось і зараз думаю, а што і чаму мяне тады так уразіла?..

У жыцці, а потым і ў літаратуры, я сустракаўся з фашызмам у выглядзе гэткага монстра з ашчэранай крыважэрнай зяпай, які рабаваў, паліў, расстрэльваў вінаватых і невінаватых з аднолькавай жорсткасцю. Ды гледзячы на такога монстра я з чалавечым стаўленнем да чалавека пытаўся сам у сябе: як, пры якіх умовах звычайны, нават сентыментальны немец, чыя культура ўражвала свет, мог выраздзіцца ў паталагічнага ката і забойцу? Мне бачылася страшная з'ява, але не ўдавалася зазірнуць у нутро яе. Для гэтага патрэбны быў вобраз, мастацкае асэнсаванне з'явы. Янка Брыль у рамане «Птушкі і гнёзды» якраз і стварыў вобраз фашызму, высветліў яго знутры, адтуль, дзе ён вырастаў на глебе нацыяналістычнай крывадушнасці, беспардоннай хлусні і палітычнай дэмагогіі.

Уразіла вось гэта і яшчэ зацятае супраціўленне фашызму беларускага хлопца, які ва ўмовах гвалту і няроўнасці пранёс сваю першародную чысціню.

Два творы захапілі мяне выкрывальнай сілай фашызму менавіта знутры: раман Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды» і кінафільм Міхаіла Рома «Звычайны фашызм». Абодва яны зроблены з такой пераканаўчасцю таму, што кожны з аўтараў расказваў толькі тое, што ведаў адзін ён і ніхто больш...

Пазіраючы збоку ды зверху, можна дужа лёгка зрабіць выснову — часам так і бывала,— што Янка Брыль не вельмі актыўнічаў у літаратуры: за пяцьдзесят гадоў літаратурнай працы — пяць тамоў. А вось Заля, Бальзак, Горкі ды і нашы некаторыя...

Усё яно так, ды і не зусім так...

Кажуць, выдавец Сыцін купляў некалі рукапісы на вагу. Не ведаю, колькі каштаваў адзін фунт тых рукапісаў. Ведаю другое: сапраўдны мастацкі твор бясцэнны, бо ён адзіны і непаўторны ў свеце. Другі такі твор не створыць і сам творца.

Гартаю пяты том збору твораў, перачытваю некалі чытанае і адчуваю, як захапляе мяне напісанае, бярэ ў сваю ўладу, і ўжо няма сіл адарвацца ад кнігі, бо я зноў і зноў адкрываю сабе навакольную прыгажосць, чалавечую мудрасць у такім супярэчлівым нашым свеце. Я дзіўлюся красе, адкрытай пісьменнікам, трапяткой думцы, засяроджанай на нейкім факце, міма каторага я прайшоў бы, не заўважыўшы, і дзякую яму, што вучыць мяне бачыць усю шматфарбнасць жыцця ў простай з'яве. Гэта асабліва важна для тых, хто шукае рамантыку за сямю марамі, а яна побач з імі.

Вось ужо хто ўмее бачыць у малым вялікае, агульначалавечае — Янка Брыль!

Прыгадваецца, як некалі, *яшчэ ў тую пару, калі* часопіс «Маладосць» быў «тонкі», а калгасныя справы куляліся цераз пень-калоду, Янка Брыль разам з нястомным фотакарэспандэнтам Аляксандрам Дзітлавым паехалі кудысьці на Маладзечаншчыну, каб напісаць нарыс пра перадавіка калгаснай вытворчасці. Абавязкова механізатара. Нам, маладзейшым у літаратуры, было цікава паглядзець, як абыдзе вопытны пісьменнік рыфы газетных штампаў, што каінавай пячаткай ляжалі на нарысах пра перадавікоў — падстаў у загатоўку іншае прозвішча і нарыс гатоў.

З камандзіроўкі яны вярнуліся хутка, здаецца, на другі дзень, і Аляксандр Дзітлаў па сакрэце сказаў, што нарыса, бадай, не будзе: з трактарысткай пагаварыць не давялося, бо яна адразу стала сварыцца са старшынёй калгаса, а Іван Антонавіч сказаў: пойдзем, бо рабіць ужо няма чаго...

А яшчэ дні праз два-тры мы з захапленнем чыталі брылёўскі нарыс. У сварцы трактарысткі са старшынёй калгаса пільнае вока пісьменніка ўгледзела тое новае, што нараджаў час: прабуджэнне ў чалавеку адказнасці за ўсё на свеце і высокай чалавечай годнасці — звацца не вінцікам, а гаспадаром зямлі. І ўсё гэта было расказана такой жывой вобразнай мовай, з палётам думкі ў будучыню, што як жывых уяўлялі мы і нехлямяжага старшыню калгаса, і баявую, спрытную на язык і на працу трактарыстку.

І ніяк не абыдуся, каб не сказаць яшчэ пра адну адметную рысу Брыля-грамадзяніна. Ён неяк абышоўся без высокіх, адказных, ганаровых і іншых пасад, якія можна займаць, не ходзячы на працу, не выконваючы абавязкаў, звязаных з той пасадай. Калі ж яму даводзілася браць на плечы нейкую малую ці дужа цяжкую ношу, ён нёс яе сам, не звальваючы на другіх, сумленна і шчыра адрабляючы той пасадны хлеб. Ён дакладна прыходзіў на працу і браўся за справы, даючы і іншым прыклад сумленных адносін да сваіх абавязкаў.

Інакш рабіць яму не дазвалялі сумленне, адказнасць і таварыскасць.

Хай жа і надалей гарыць зыркі агеньчык чысціні, асвятляючы дарогу сумленным, асляпляючы сваім бляскам вочы хціўцаў і крывадушных.

**Алесь АСІПЕНКА.**

# МОЙ ПІСЬМЕННІК

**У Івана Антонавіча Брыля юбілей — свята і ў мяне на душы. Больш за чвэрць стагоддзя ягоная паэзія крочыць па маёй сцяжынцы ў жыцці, цешыць *слых і душу*, поўніць сэрца ўзнёслай радасцю, нават надае смеласці часам брацца за пяро і класці пачутае, убачанае, перажытае на любімы Брылём белы ліст паперы.**

**Даўным-даўно нечакана-негадана ўсёй тады маладою яшчэ сям'ёю завітаў Іван Антонавіч *на дзянёк да майго дзядзькі* — вясковага настаўніка. Старэнькая драўляная школка, у якой дзядзька Лявон выкладаў літаратуру, выбрала сабе месца пад сонейкам ля саменькай Белавежскай пушчы, і з гэтай нагоды ўсіх вабіла прырода. Мужчыны паселі за вуды, жанчыны заслалі сурвэтку на зялёным, буйнатраўным беразе пакручастай, вузенькай Лясной. Мо рыбаловы крышку запазніліся, мо дзядзька выбраў нешчаслівае месца, адным словам — не клявала, і гаспадар быццам і неўпрыкмет адрываўся ад паплаўкоў, *касіў вока ў той бок*, адкуль смачна пахла і ціхенька пазвоньвала. Іван Антонавіч рабіў выгляд, што не заўважае дзядзькавых «пакут», і ўпарта гнуў сваю лінію: пакуль трынаццаць печкуроў не выцягнем, у губу ніхто ні кроплі не возьме...**

**А добрая мама мая дык успамінала сваё жаночае, мацярынскае: «Далікатны такі чалавек: сцеражыцеся, Ларыса Мяфодзьеўна, каб часам я вас не загачыў. А сыночак у яго — Андрэйка — ну, чысты анёлак, валасы залатыя і кудзеркавыя, *толькі крылцаў* і не хапае...»**

**І зноў дзядзька: «Вітае цябе, Лявоне, Брыль, — працягнуў у адзін з прыездаў да нас у Дзмітравічы Уладзімір Андрэевіч Калеснік ладнаваты скрутак.—Не забыў Антонавіч, што галавою ты, як і ён, выйшаў *амаль у думныя дзякі «в приказе поседелые»*. Вось трымай ад Брыля брыль, твайго шэсцьдзесят з гакам памеру, дзе толькі і вышукаў?»...**

**Як жа балюча заўсёды было мне слухаць, можа, крышачку і расквечаныя лагоднай фантазіяй іхнія ўспаміны! — усяго за адзін дзень да прыезду дарагіх**

**(Заканчэнне на стар. 6).**

# МОЙ ПІСЬМЕННІК

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

гасцей я (студэнт-пуцеец на той час) пакінуў шчырую дзядзькаву хату, вярнуўся да сваіх рэек, кастылёў і шпалаў, а цягнула, ужо тады цягнула мяне да літаратуры, да беларускага Гогаля, як называў Брыля дзядзька.

Шчыра хвалявалі і захаплялі Якуб Колас, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, але нязменна ў запаветным куточку сэрца грэла тая вялікая з'ява ў беларускай маёй літаратуры, тое нязгаснае святло ў маім жыцці, што завецца творчым набыткам Янкі Брыля. Першае, што запомнілася назаўсёды: цесны пакойчык у былой падкулацкай хаце, сорак палешучкоў у ім і старэнькі настаўнік за сталом. На вочы настаўніка і ягоных вучняў просяцца слёзы. Мы слухаем, мы разумеем, мы радуемся, мы больш пакутуем, мы зачараваны. З абвостраным пачуццём на чужы боль мы — дзеці, якім давялося паблытацца пад нагамі вайны, пачынаем спасцігаць велічнасць менавіта чалавечых адносін нашага равесніка, амаль аднаго з намі лёсу хлопчыка Сівага і сардэчнай, так мілай нам пані Мар'і.

А хіба можна забыць вось гэта: «Дзіва, шчаслівае дзіва бярэ — колькі яе, прыгажосці, і як я мог жыць, не бачыўшы да сарака пяці... ну, скажам, возера Лукаўскага, з векавымі дубамі і шэрымі крыжамі на касе»... І гэта гаварыў чалавек далёка вядомы па-за Беларуссю і Расіяй, які пабачыў нямала дзівосаў свету, і ён гаварыў аб тым возеры, у якім сплыло маё дзяцінства, аб тым кутку майго Палесся, які неаднойчы дарыў і мне пакутлівую слодыч натхнення. І як соладка было мне вычытаць ва Уладзіміра Салаухіна шчырыя, з самага донца багатай ягонай рускай душы вось такія словы: «Янка Брыль — замечательный белорусский писатель и поэт (что он пишет прозу не имеет значения)».

Еднасць з сялянскай натураю, еднасць па крыві і складу розуму, еднасць з той ціхай, някідкай, шчымлівай радасцю, якая часам па вясне сціпла блісне ў сялянскіх вачах і адаб'ецца ў кроплях поту на твары, якія народзяцца ад дотыку рудой далоні да плуга і сяўні, — вось тая галоўная крыніца, вось той выток шырокай ракі дум, пачуццяў і мудрай навукі Янкі Брыля.

Нельга шчырэй і мудрэй параіць тым, хто нешта хоча сказаць людзям, як гэта робіць Брыль менавіта сваім звонкім словам. Якая патрабавальнасць да сябе, якая неверагодная сціпласць, якая падтрымка і вера ў чалавека ў кожным вылюляным, выспеваным ім радку! Нельга ўявіць таго шчасця, якое запанавала б на Зямлі, калі б дзеці яе выканалі запавет пісьменніка: «Як многа недабачанага недачутага, неадчутага, недаробленага!»

**Леанід ФІЛАТАЎ,**
**настаўнік Мухавецкай сярэдняй школы Брэсцкага раёна.**

# Перачытваючы ЯНКУ БРЫЛЯ

**Стала нормаю не толькі чытаць, а і перачытваць родныя кніжкі. І не толькі «Шляхам жыцця» (дарэчы, найдаражэйшая з дарагіх кніжак), «Вянок», «Новую зямлю», «У палескай глушы», «У глыбі Палесся»...**

**Спыняюся з пералікам, бо не ўсё тут пералічу.**

**Чытаю і перачытваю Янку Брыля.**

**Гэта публікацыя — само сведчанне, што я чытаў і перачытваў, успрымаў і ўспрымаю Брылёва. Успрымаў і ўспрымаю яго змястоўныя сціслыя выказванні і сцверджанні, яго веру і надзеі, яго пытанні і неспакой, яго споведзь і сумненні...**

**Тут — старонкі таго, што называлі і называюць у друку крылатымі выслоўямі і крылатымі словамі, афарызмамі і афарыстычнымі выслоўямі, фразамі, фразамі-залацінкамі... Ні акрэсліваць афарызма (афарыстычнага выслоўя), ні разважаць пра яго не буду: у літаратуры нямала пісалася, паўтаралася.**

**Падаю прыгаршчы Брылёвых афарызмаў, свядома без тэматычнага спарадкавання, без сістэматызацыі паводле зместу.**

**Фёдар ЯНКОЎСКІ.**

Адзін стары, бацька майго таварыша, гаварыў, паміраючы, што найбольш яму шкада *расставацца з прыродай.*
*А мне* было б *з кнігамі...*

Аўтарытэт — неабавязкова любаванне самім сабою.

Багацце, раскоша не дадаюць таленавітым людзям абаяльнасці.

Бачыць і чуць хачу я не так сабе, а дзеля патрэбы, з адчуваннем якой, як з адчуваннем абавязку, хораша жыць.

*Баяцца* за другіх — *не баязлівасць.*

Беларус павінен быць такі. З куста гавораць: «Я воўк, я цябе з'ем». А ён павінен адказаць: «Калі ты воўк, дык я леў, *і я не баюся цябе! А то што!..*

Белы сцяг — не знак капітуляцыі, а сімвал разумнага міру.

Большую частку жыцця чалавек праводзіць у адзіноце. Чаму некаторыя людзі баяцца, не любяць яе?..

Браце, важна мець не дом, а сон!..

«Вас когда-нибудь били по обнаженному сердцу?..»

Ці чуў гэта калісьці, ці чытаў... не ведаю, не памятаю. Але гэта апошнімі днямі вельмі маё... *Вось што такое «лірычная проза».*

Веймар. Зноў галерэя. Гляджу на партрэты ўладароў ды магнатаў і думаю: «Ад чаго яны так сыта, весела ўсміхаюцца? Ад працы, ад нядолі нашых продкаў?»

Век жыві — век будуйся.

Велічы народа не паменшыла пяцівекавáя няволя (Балгарыя пад уладаю Турцыі. — **Ф. Янк.**). Так бывае, калі ёсць *сіла любові і вернасці.*

Вечнае не старэе.

Высокае пачуццё — мая справядлівая рэўнасць: да палякаў — за Міцкевіча, да рускіх — за Талстога.

Вышэй за ўсё і перш за ўсё — чалавечнасць.

«Галава пустая, як новы цэбар». Чужое гэта? Народнае? Каб такое яна, вясковая настаўніца, прыдумала сама,— аднаго гэтага (...) хапіла б, каб паверыць у яе здольнасці.

Гані мяне, доля, ад перакатных радасцей капрызнай славы да зямнога, ціхага шчасця патрэбнай працы!

Два найвышэйшыя званні — пісьменнік і чалавек. Адно мне вельмі хочацца *набыць,* другое — яшчэ больш — *не страціць.*

Дзеці — вялікая праўда і радасць жыцця.

Дзеці пакідаюць бацькоў (часамі вельмі няўдзячна), а потым вяртаюцца ў выглядзе ўнукаў, і таму, *кажуць,* бабулі любяць унукаў больш, чым калісьці любілі дзяцей.

Дзіўная справа — як жа ўсё-такі жывуць і пішуць тыя пісьменнікі, што не героі, не лаўрэаты, не дэпутаты, без ордэнаў, а проста... добрыя работнікі літаратуры?..

Дзіцячым пісьменнікам трэба ўсё-такі нарадзіцца. Быць ім, калі сапраўдным, не вельмі проста.

Добра *вось так:* зрабіць усё, што мог, і адысці.

Добра знайсці сцюдзёную крыніцу і прыкленчыць каля яе гаваркой вады.

Добра і ў старасці быць маладым!

Добры чалавек, але слабы літаратар дорыць табе сваю кнігу, часткова, па публікацыях у прэсе, ужо знаёмую табе, і так няёмка, што нельга будзе сказаць яму пра гэтую кнігу штосьці добрае — калі не лгаць.

«Еш, дурань, бо то з макам!»
З мусу, па службе чытаючы мноства вершаванай прадукцыі, возьме часам ды ўспомніцца: «Еш, дурань, бо то з *рыфмай*».

Жыццё чалавека — *як агонь.* Быў і няма. Зноў загарэлася і патухла. Зноў гарыць. І так бясконца.

З самага малку чалавеку *так хочацца* жыць!..

Зноў і зноў прыходзіць думка: *а як жа, як, як* у такой цудоўнай прыродзе, у такой зайздроснай культуры можна было дайсці да Асвенціма?...

Зусім не хістаюцца толькі слупы, асабліва — глыбока ўкапаныя.

Зусім розныя рэчы — салдату хацець стаць маршалам, а яфрэйтару лічыць, што ён ужо генерал.

Інтэлігенцыя *не ўся* і *не заўсёды* інтэлігентная.

І смешна і сумна, як некаторыя нашы кандыдаты, дактары ды акадэмікі надзімаюцца, лічачы, што яны ўжо ведаюць усё.

Калі б я аднойчы ўранні прачнуўся і раптам паверыў, што яна жывая, я пагаліўся б чыста, надзеў чыстую беленькую кашулю і, адклаўшы ўсякія працы ды справы, пайшоў бы сказаць: «Добрай раніцы, мілая цётка Уладзя!..» (Цётка Уладзя — Купаліха. — **Ф. Янк.**).

Калі любяць, пацалункаў *не лічаць.*

Калі народ прыгнечаны чужынцамі, тады пачынаецца барацьба за адстойванне роднай культуры.

Калі я чытаю добрую кнігу, не папракайце мяне ў гультайстве; не хочаце прызнаць што я працую, дык думайце, што я *малюся — Слову.*

Каля рэчкі, каля броду, там галубкі пілі воду... І гэта ў песні *не прыдумана.*

Кароткасць, сціслацсць трэба ўжо лічыць не толькі сястрой таленту, але і меркай страснасці.

«Колькі таго жыцця!..»
Часовасць гэтую разумеюць *па-свойму* і мудрасць і дурнота. Адна стараецца насыціць яе, часовасць, мудрым зместам, а другая — схапіць хоць што.

Колькі б адпала правяральшчыкаў, каб людзі працавалі хоць больш-менш сумленна.

Космас, галактыка, міжпланетныя сувязі... А на зямлі яшчэ столькі вялікай работы!..

Крывавы неразблытаны вузел нянавісці паміж двума народамі... З армянамі пра туркаў цяжка гаварыць.

Крытык адчувае сябе паміж Парнасам і пісьменнікам, *а месца* яго — паміж пісьменнікам і чытачом.

Лірыка, аказваецца, патрэбна ў кожнай справе.

Любуючыся красой палёў, думаў пра нейкага дзядзьку з вунь таго хутара ці з гэтай вёскі: як жа ён успрымае ўсё гэта хараство? Проста жыве ў ім у спакоі шчаслівага спажыўца? Як птушка?
*А хто* тады песні складаў народныя?
*А мы* адкуль узяліся — *тыя, што пішам?*

Людзі цяжкай працы, якія жывуць у прыродзе, гавораць не толькі «хочацца жыць», але ж і *«трэба* жыць».

Лягчэй жывіце, людзі, весялей!..

*Лягчэй за ўсё* сказаць: «Я не знаходжу слоў...»

Мова дзяцей здаецца зразумелай, як птушыны спеў.

Можаш напісаць эпапею, зрабіць незвычайную хірургічную аперацыю, выдумаць звышвадародны цуд — усё адно не будзеш такі задаволены сабою, як дама-мяшчанка, калі яна едзе ў тэатр ці на рынак на ўласнай машыне. Дый на службовай, мужавай.

Мы павінны *ўмець і* ўвесь час *вучыцца* культурна сцвярджаць, абгрунтоўваць сваё.

«Не будь аиста да жаворонка, пожалуй, бедному землепашцу и головы незачем было бы ввысь поднимать». Гэта — у Ядвігіна Ш., з артыкула «Не убивайте их!..», сказана па-руску і нібы між іншым. *А просіцца на эпіграф.*

Не зазнавайся — ты прыйшоў на ўсё гатовае. І восень гэтую, што абапал дарогі, у сонцы, — назвалі залатой таксама без цябе.

Не наступайце на дзіцячы смех. Гэтая крыўда не забываецца.

Не скажу, што я прыехаў сюды, у вёску, «вывучаць жыццё». Бо зацягалі, забрудзілі мы гэтыя словы.

**Раман ТАРМОЛА**

# Пасля сустрэчы з Іванам Антонавічам

Мы землякі...
Бакамі хаты труцца.
Вітаецца акно з акном,
Бо недзе за Турцом,
а не за Турцыяй
Яго Загора... І ягоны дом...
Бо да Міра бліжэй нам,
чым да міру
У свеце людзям сёння... Далібог,
Наш паднябесны чалавечы вырай
У сэрцы бацькаўшчыну прыбярог.
Мы землякі...
Наш розны ўзрост
і годнасць
Не дасць пачцівых перайсці граніц.
І, можа, у гэтым наша першароднасць,
Перад якой схіляю голаў ніц.

Па вуліцы ідзе Іван Антонавіч,
Задумны і прыкметны адусюль,
Ні часам не прыгнуты ён,
ні стомаю,
Ні посвістам ратоў і розных куль...
Шчаслівы той,
хто можа па-сяброўску
Гадзінамі з ім бавіць час.
— Дзень добры! Як жыццё?
— Так... То ў палоску...
То ў крапінку... Як на экране ў вас!

Сыпнуў усмешкай,
быццам жменяй сонечнай...
На развітанне падае руку.
Ніколі не ўчарашні. Вечна сённяшні.
Што падуладна толькі мастаку...

**ПАЭЗІЯ**

**Нэля ТУЛУПАВА**



## Тры Вулляны

*ТРЫПЦІХ*

### Вёска Вулька

«Вулька, Вулечка, Вуля», —
Так лагодна я паўтараю,
Як на дудачцы граю.
Клічу, клічу той дзень.
І плыве звон мядовы з вулляў,
За чародкай качынай
Па вуліцы
Хлапчанятка ідзе.
Каля весніц дзяўчынка скача,
На мяне глядзіць
І—не бачыць.
То, здаецца мне ўсё,
Няйначай,
Шчэ хвіліна
Да енку-плачу —
Будуць Вульку з людзьмі
Паліць...
. . . . . . . .
Мне да сёння баліць.

### Маці Вулляна

Яшчэ ў цябе ёсць Заўтра,
Ды пра гэта
Ніхто не ведае.
Ні лес,
Ні лёс.
І ты ўжо развіталася са светам.
Таварышкі хаваюць смерць
Ад дзетак,
Нібыта даланёй яе схаваеш.
А ты маўчыш і слухаеш дзіця,
Яно ў табе як сонейка ўсплывае:
У вочы смерці глянула жыццё!
Няўжо яго не стане?
Забыццё...

### Вулечка

Унучка дачакалася бабулю.
Унучка Вуля і бабуля Вуля.
Сінее маці молада вачамі:
«Цяпер я з лёгкім сэрцайкам памру,
Даруйце, што заўчасна гавару,
Даруйце, што ў т ы м Л е с е я маўчала.
Прасіць у ненавісніку спагады?..»

І дзень жахлівы адвядзе паглядам.
«То за чыгунку, што рванулі нашы,
Надумалі вось гэтакі прыстрашак,
Дзяўчатак прыхавала я ў радні.
Іваньку я насіла ў тыя дні».

Брат — гаварун.
Да досціпаў ахвочы.
А ў дочкі Вулечкі
Дзесь у мінулым вочы.
І бачыць Вулечка,
І штосьці яна чуе,
А слоўцам не акажацца —
Маўчуння.

## На Вячы

Усмешкай, не словам,
Дзень новы акрэслю
І раптам нанова
Пяшчота ўваскрэсне.
Калючай ажынай
Па-над сцяжынай
Я не звякую.
Ці зналі такую?
Ці зналі, ці чулі,
Ці чулі, ці бачылі?
На беразе Вячы
Ад тлуму ачуньваю,
Тут вечар як вечар,
Пляскоча яршамі,
Тут зорнае веча
Мой лёс вырашае.
Па зорцы на шалях:
Сава ці сінічка,
Ці век ці часінка?
Адна зорка — знічка,
Другая — расінка.

## Скажыце ўсім

Жыву апошнім часам
Неяк сцішана.
Цураюся людзей
Задужа ўвішных.
Баюся слоў,
А памаўчаць не лішне:
Няхай вуркоча май
І да вясёлкі
Лашчыцца!

Скажыце ўсім,
Што прыляцелі
Ластаўкі!

## Навука

Не маўчаў,
Навучаў:
— Не хадзі па дубровах,
Бо выцвітуць бровы.
Не ўсміхайся Мікіту:
Усё роўна сярдзіты.
Не цалуйся з Іванам,
Бо вусны завянуць.

...А вусны — нібыта пунсовы мак:
— Глянь, не завянулі!
Дарма баяўся ты, дзівак!

**Мікола КУПРЭЕЎ**



## Маналог дуба

Крутымі вузламі-вачамі
не бачу свайго ствала.
Толькі чую, як крэпасць мая
распірае кару,
таму па ёй — трэшчыны.
І чую свой шум шырокі.
Я дужай галінаю з неба
маланку зрываў
І ўганяў у зямлю —
каб гэтае вогненнае кап'ё
здуру не паразіла
хутар Ганны, салдаткі-ўдавы.
Яе дзеткі — худыя, маленькія
Васечка і Алёнка —
збіралі пад веццем маім жалуды
ў кошык лазовы
і ў торбачку з плямкай чарніла —
я карміў парасятка іхняе.
Я над імі сціхаў сваім веццем,
я ціха іх веццем сваім ахінаў.
Даўно ўжо не чую Ганны.
Не ведаю, што з Алёнай.
Толькі ўчора пад'ехаў з пасёлка Васіль,
закусіў пада мной кумпяком
і бензапілою адрэзаў
мой ніжні сук —
здаровы і самы багаты
на жалуды.
Вецце абсёк і закінуў
руку маю ў кузаў.
Яна глуха стукнула.
Але яшчэ чую свой шум.
І крэпасць яшчэ распірае кару.
Толькі як духам зусім сыду,
падпіліце мяне —
і я к вашым нагам,
можа, апошняй карысцю якой упаду.
Але чую: зноў едзе Васіль.
І не адзін, здаецца...

## Ён і Яна

Азіралася: Ён бег. І падаў — і тады
Яна ўрачыста рагатала,
паказвала на райскія сады,
крычала: «Закахаю!» — і знікала.

Ён у тыя райскія сады
ўрываўся разгарачана-знямоглы.
І здрадзіў Ёй: шукаў вады.
А ў садах крыніцы перасохлі.

Памудрэў. Лёг на спіну.
Услухаўся ў зямныя нетры —
пачуў глыбокую струну
ў далёкім краі вербным.

**ПРОЗА**



**Павел МІСЬКО**

# Як я быў рэдактарам

АПАВЯДАННЕ

Памятаеце чэхаўскую кнігу скаргаў, што ляжыць на безымennай станцыі ў спецыяльна зробленай кантоpцы? Можа, памятаеце і пра што ў ёй пісалі? Ну, а калі ўспомнілі, то патрымайце трошкі ў памяці, пакуль я раскажу, што адбылося.

А падзея такая здарылася: нечакана на сходзе мяне выбралі рэдактарам насценнай газеты і яшчэ ў прыдачу чатырох чалавек у рэдкалегію. У мяне нават пыталі, каго б я хацеў мець пры сабе, хто, на маю думку, больш здатны да гэтай няпростай справы. Выбралі і абавязалі да такога-та і такога чысла выпусціць першы нумар.

Вось так, буду ведаць, як крытыкаваць іншых...

Зачухалі мы патыліцы.

Не скажу, што я ніколі ў вочы не бачыў насценнай газеты. Бачыў! Хоць бы ўзяць нашу, што называецца «На ўздым!» і вісіць у калідоры. Чатыры рукапісныя невялікія калонкі займае перадоўка, а правільней дырэктыва самога дырэктара. На большае ў рэдкалегіі не хапіла фантазіі, і на пятай, апошняй калонцы намалявалі пузатую, нібы аб'елася пісьмаў, паштовую скрынку і ластаўчку-пісьмо. Пад малюнкам вялізнымі літарамі, каб можна было заняць месца да самага нізу, напісана: «ПАДАВАЙЦЕ ЗАМЕТКІ У НАСТУПНЫ НУМАР НАШАЙ ГАЗЕТЫ!» Калі меркаваць па гэтым нумары, адрыў папярэдняй рэдкалегіі ад мас быў жахлівы, проста чорная бездань зеўрала паміж імі. А калі так, то і ўплыў насценнага друку на жыццё нашай установы ў цэлым і кожнага індывідуума паасобку быў нікчэмны. Газету не заўважалі, як не заўважаюць пустое месца.

«Збяромся адразу пасля работы,— сказаў я рэдкалегаўцам. — Кожны павінен прыйсці з пяццю самымі неверагоднымі прапановамі. Інакш не ўскалыхнем калектыў, не зробім газету чытэльнаю».

Вось тут і ўспомнілася мне чэхаўскае апавяданне пра кнігу скаргаў. У ім жа быў выкладзены такі вопыт, такі вопыт! Цаны яму няма... Да газеты павінен мець доступ кожны, як і да той кнігі. І трэба зрабіць так, каб яе лічылі роднаю-раднюсенькаю. Каб да яе цягнула, як магнітам. Каб без яе ні есці, ні спаць, ні жыць не маглі. Каб у кожнага ажно рукі свярбелі — так хацелася штосьці ўпісаць, выліць у крыку душы, падзяліцца скарбамі душэўнага куфэрка. Спецыяльна для гэтага і чыстыя лапікі папакідаем: стварай, выдумвай, спрабуй!

Сабраліся, як і дамовіліся. Па тварах рэдкалегаўцаў відаць было, што прыйшлі яны не з пустымі рукамі, не з парожняю галавою. Мелі што сказаць-падказаць, нават машыністка Машанька нецярпліва патузвалася ў крэсле, нібы яе казыталі. Але яшчэ і разам давялося папацець: спрачалі-



Ансамбль «Случ» Салігорскага Палаца культуры ў час рэпетыцыі.
Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ

І пайшоў на голас той —
вярнуўся ў роднае Палессе.
Спатоліў смагу прыпяцкай вадой
і ўсякі іншы рай закрэсліў.

І так качаўся па траве,
рагатаў з высокіх сосен.
Але прайшоў зялёнавей,
верасы спаліла восень.

Тысячы гадоў маліў
пад халодным дрэвам —
і прашапталася ў камлі:
«Я згарэлага не грэю».

Ён зрабіў з ляшчыны лук —
пусціў стралу ў голас.
Але пара лебядзіных рук
над ім расла з нябёсаў.

Яна зламаную стралу
да ног Ягоных палажыла:
«Пакуль рабіў ты ўнізе лук,
я ў небе з Марсам саграшыла».

●

Я азірнуўся на ўздых за спіной:
мой вораг здзічэла стаяў прада мной.
Камень дыміўся ў правай руцэ,
у левай — зламаны, іржавы пінцэт.
Я рассмяяўся: «А гэта нашто?»
Ён прашыпеў: «Зарэзіць нутро». —
«Ах, вось як! А ну, пакажы.
Дай мне. Узамен — залатыя нажы».
Я даў яму два залатыя нажы
і сеў адпачыць на зялёнай мяжы.
А той азіраецца і — трушком,
захлынаецца недзе смяшком.
«Вярніся! — крычу. — Праніжы!» —
«Не магу! Залатыя ж нажы»...

## Святавольскі верлібр

Прыйду ў Святавольскі дрымучы лес
і ў балотцы,
прапахлым дурніцай, багульнікам,
на замшэлы прысяду пянёк,
з «дыпламата» дастану торбу,
а з яе — свой нябедны скарб
і ціха скажу я нетрам:
«Зганьбаваныя літаратурай
Заяц, Ліса і Воўк,
хадзіце сюды, хадзіце...
А, гэта ты, касавокі?
Заечай капусты табе я прынёс
з Прыпяцкага заказніка. Еш!
І нікога не бойся.
Ліса, я пеўня ў цешчы ўкраў
(прасіў—не давала).
Еш! І прашу,
каб на хутар Анэлін
нага твая не ступала.

Воўк, не вый — не чытай
артыкулаў у «Камсамолцы»
пра тваю непазбежнасць і коснасць.
І ведай:
ты ўсё-такі воўк. За гэта —
мяса кавалак табе. Схавай
ваўчанятам. Не будзе нас —
не будзе й цябе. Жыві!»

...Што я меў — аддаю,
буду мець — забярыце.
Толькі вось гэту маю
балоцінку зберажыце...
...Зноў лесу майго няма.

Зноў рытарычныя вершы пішу.
Зноў туга торбу сваю завяжу —
ні лісы, ні зайца, ні ваўка.
А я яшчэ неяк жыву.

Маўчанне травы. Фотаэцюд А. КАЛЯДЫ.

ся, сварыліся, адбіралі лепшае, абзываліся, крыўдавалі і даравалі адзін аднаму свае крыўды, дадумвалі, абмяркоўвалі, ухвалялі, адкідвалі, бракавалі, знаходзілі і... рагаталі. Мастаку Івану Іванавічу, самаму тоўстаму і смяшліваму члену рэдкалегіі з аддзела рэалізацыі, давялося прыкладваць да жывата бутэльку з-пад венгерскага вермуту з гарачаю вадою — разбалеліся бэбахі ад смеху. І Машанька таксама ўскрыквала: «Ой, не магу! Ой, дзяўчаткі, не вытрываю!» (хоць тых дзяўчатак, акрамя яе, у рэдкалегіі не было) — і ўсё выбягала з пакоя, каб прывесці сябе ў парадак.

Куй жалеза, пакуль гарачае. На тым жа запале, на той жа магутнай хвалі ўздыму і заметкі пісалі. Прывалаклі з машыннага бюро паўтонную «Украіну», і Машанька тут жа стракатала-друкавала, што прыдумвалася, выразвала з усякімі фокусамі і прыклейвала да вялізнага, як стол, аркуша паперы. Вядома ж, яго не хапіла, і давялося красці ў праекціроўшчыкаў з шафы другі, а потым і трэці такі аркуш, склейваць у доўгае палотнішча. Ужо і дванаццаць ночы піпікнула, і гадзіна апоўначы прайшла. Некалькі разоў заглядвала прыбіральшчыца — не пераседзела нас, пайшла дадому. Двойчы прыходзіў знізу дзяжурны, каб вытурыць нас. Ого, дзіва што! Спалохае ён нас міліцыяй... Не на таго напаў!

Урэшце, падтрымліваючы наша дзецішча дзесяццю рукамі, вывалаклі яго ў калідор і прыкнопілі да сцяны.

Раз'язджаліся па дамах на таксі, іншага транспарту ўжо не было.

Спалі ці не спалі члены маёй стаханаўскай газетнай брыгады, не ведаю. Я то кепска спаў: сем разоў усхопліваўся з ложка, бег да стала, уключаў настольную лямпу: каб яшчэ нейкую прыдумку запісаць, каб не прапала для наступнага нумара. Разварэджаны мозг выдаваў на-гара знаходку за знаходкаю.

Пад раніцу ўсё-такі змогся і заснуў.

На работу, вядома ж, спазніўся.

А прыйшоў у наш высокі дом, то яшчэ знізу, з вестыбюлю пачуў, быццам дзесьці гудзе-шуміць марскі прыбой, аднекуль даносяцца раскаты, быццам водгулле далёкай навальніцы.

Падняўся ліфтам на наш дзесяты паверх.

Матачка родная... Увесь калідор каля насценнай газеты забіты-заклакаваны супрацоўнікамі. Пярэднія папрысядалі, папрыгіналіся, каб лепш было відаць задним. Потым ішлі рады крэслаў, на якія паўзлазілі нагамі. З самага заду раскірэчылася лесвіца, на ёй вісела людзей — як «дамскіх пальчыкаў» на вінаградной гронцы. Тыя, што на лесвіцы, трымалі хто тэатральны, а хто і цэйсаўскі, з ваенных часоў, біноклі, разглядвалі і чыталі здалёк, муштравалі тых, што стаялі: «Эй, больш прысядзь! Эй, адсунься! Ты!.. Зніми галаву пад паху!» А хто забываўся і крычаў: «Старонку перагарні!», нібы на адвароце газеты таксама хацеў нешта ўбачыць.

Тройчы выходзіў дырэктар і сам — асабіста! — ціскаў на пупок электразванка, заклікаў да работы. Званок глух у выбухах рогату, у выкрыках абурэння ці захаплення.

Было не да работы.

Вельмі хацелася пастаяць, паслухаць голас народа, голас божы, папіць слодычы славы — не келіхамі, не! Куфлямі! Квартамі! Гарцамі!

Але трэба прабірацца ў кабінет, а ён — па другі бок натоўпу-хмары.

Палез па-пластунску, шыўся ў людзей пад нагамі, а то і паміж ног плішчыўся. І пакуль прабраўся, пальцы параспухалі, кіпці пасінелі і пачарнелі — гэтак паадтопталі.

Я лез, бо ведаў: за кожным прылівам бывае і адліў.

Я выбраў самае моцнае крэсла і ўбіў яго ножкаю за ручку дзвярэй. Пакруціўся сюд-туд: з чаго б яшчэ зрабіць барыкаду? Каб які сейф кулепрабівальны паставіць, парачку шафаў паваліць на бок...

Хе-хе... Пакуль пачнуць дзейнічаць газетныя рубрыкі «Нам адказваюць» і «Па слядах нашых выступленняў», я назаву вам некаторыя рубрыкі і загалоўкі з выпушчанага нумару (калі паспею, то і змест некаторых заметак перакажу, усё роўна вы не скора далезеце да газеты).

Значыць, так: «ХАБАР» — «Хочаш — Адбірай Без Асаблівых Рэверансаў». Сюды папрылепвалі ўсе чуткі, якія толькі ні насіліся па нашай установе. Гэта амаль тое самае, што і шэпты пазавуголлю ці, кажучы больш культурна, «у кулуарах». Да «ХАБАРУ» тэматычна прымыкалі рубрыкі «Справы сямейныя і калясямейныя», «Праз замочную шчыліну», «Весткі з алкагольнага фронту», «У курылцы», «Апошні анекдот пра цешчу». Быў і «КАЗУС» — «Камера Захоўвання Усялякага Смецця», сюды мы ўдрукавалі зусім дробненькія па значэнні, па сэнсу факты, прачытаўшы якія, можна хмыкнуць: «А, ведаеце, у гэтым штосьці ёсць...» Давалі старонкі з «Сонніка», дзе вучылі народ, як разбірацца ў снах згодна навуцы, а не так, як разгадвалі на рабоце раней: кожны на свой капыл. Змясцілі і сёе-тое з «Практычнае хірамантыі Шылера-Школьніка» пра значэнні і назвы кожнага пальца, пра ўсякія Венерыны і Мілосныя бугрыкі, пра зморшчынкі на далоні — указанне на колькасць палюбоўніц. Надрукавалі апошнія звесткі пра экстрасенсаў і ўладальнікаў магутных біяполяў ды яшчэ паразважалі, хто з нашага калектыву якое поле мае, хто дзеліцца энергіяй біяполя з іншымі, а хто жлукціць, як той вампір, смокча энергію іншых. І пра «Бермудскі трохкутнік» напісалі, які завёўся сярод нашага кіраўніцкага складу...

(Ну хто там ужо барабаніць у дзверы? Хто мучыць тэлефон?)

Былі і «Аб'явы»: хто з кім пасварыўся, хто на каго «паклаў вока», хто што згубіў, хто з дачнікаў-агароднікаў што прадае ці мяняе. Напрыклад: «Мяняю жонку з прыдачай на ўсурыйскага тыгра. Звяртацца ў аддзел да...»; «Рыхтую бацькоў да паступлення іх дзяцей у ВНУ»; «Шукаю сяброўку жыцця 150 см росту, такую, як Анечка-кур'ерка. Самому 30 гадоў, яшчэ не вельмі лысы, бландзін, 197 см. Аматар сыраядзення і і прэферанса. Звяртацца ў аддзел...» Пакінулі ў «Аб'явах» і чыстыя лапікі, каб самі ўпісвалі свае аб'явы і паведамленні. А хіба нецікавыя такія рубрыкі, як «Заглянем у чужы гаршчок», «Падзяліся рэцэптам» (што ў каго варылася-гатавалася, смажылася на сняданне, абед ці вячэру, чаму падгарэла), «Стрэльні ў дзесятку» (розныя загадкі з нашага жыцця і заклікі — «Упісвайце адгадкі ад рукі»). Або — «Вучыцеся вязаць» (хто што звязаў на рабоце і колькі махеру дабаўляў). У рубрыцы «З кім павядзешся, ад таго і...»

(Не тэлефон, а халера: звоніць-надрываецца. У дзверы грукацяць нагою).

— А вы былі каля нас, стаялі над галавою? А вы бачылі мяне з ім у пасцелі? — прарэзлівы жаночы голас за дзвярыма. — Змітрок толькі раз і заходзіў да мяне... Папрасіла воскам дзежачку закапаць, каб не цякла. Капусты нашаткую... А вы... А вы!

Хе-хе, ну а што — я? Што — я? За што купіў, за тое і прадаў. Сама замужняя, і ў Змітра таго трое дзяцей і жонка не зломак, а бач ты іх...

Тэлефон скача польку-трасуху... З дзвярэй паляцелі б ужо трэскі, каб яны былі філёнчатыя, а не з ДСП — драўляна-стружачных пліт. Падымаць трубку, ці яшчэ патрываю крыху? Мо чым вушы пазатыкаць?

— Які я... (бух нагою ў дзверы)... падхалім?! — (бух, бух!) — Перад кім я... (бух!) — поўзаў?!

Ух, і грубы ж мужчынскі голас. Не пазнаць, хто гэта.

— Каму я ў лапу даваў?! — (бух! бух!) — Гэта знявага! — (бух! бух!) — Я ў суд падам!!! — (бух! бух!!!)

«Ну-ну, падавай... Хоць у ААН, а не толькі ў суд. На судзе многае ўскрываецца такога, што і хацеў бы чалавек да новай судовай справы прыберагчы, а даводзіцца каўтаць-давіцца за раз».

А што за віск у калідоры? Быццам бы голас нашай Машанькі-машыністкі... Няўжо яе за валасы цягаюць, твар на палосы дзяруць? Ды яна ж, можна сказаць, пятая спіца ў коле, яе справа ў асноўным была друкаваць...

Аглухнуць можна ад гэтага тэлефона... Ужо дзве гадзіны, як іскры з яго сыплюцца, а ён не перагарае і не хрыпне. Паслухаць хіба?

— Алё-ё-ё-ё...
— Салвэсь Мітрафанавіч?!!!
— Я-я-я...
— Дырэктар гаворыць!!! — звініць метал у голасе майго начальніка. — Неадкладна зайдзіце да мяне! — і бразнуў трубку, не стаў са мной бурбалкі разводзіць.

Так, «Па слядах нашых выступленняў» працягваецца...

Я падышоў да акна, расчыніў. Ні пажарнай лесвіцы, ні выступаў! Не так-то лёгка з дзесятага паверха дабрацца да зямлі. Мо пазваніць пажарнікам, каб які брызент унізе расцягнулі, і на яго скокнуць? Ай-я-яй, і нікога дэльтаплана похапкам не зробіш...

Зноў давядзецца прабівацца праз натоўп каля насценнай газеты — дырэктарскі кабінет у другім канцы калідора.

Цікава, ці ёсць ёд у аптэчцы? Не спытаў учора ў Машанькі, аптэчка ў іх машынным бюро вісіць. А добра было б, каб і гіпс мелі, і якія-небудзь шыны на выпадак пераломаў.

Заглядваю ў шуфляды стала. Ёсць карабок з рознымі ніткамі, ёсць некалькі ўсялякіх гузікаў (ад маёй папярэдніцы засталося)... Калі распаласуюць адзежыну, то хоць збольшага сашчаплю, каб голым целам не свяціць. Ці папрашу Машаньку, калі сам не змагу. А што б гэта халоднейкае прыхапіць? Халоднае, кажуць, да гузакоў добра прыкладваць...

Выдыхаю і зноў удыхаю паветра, як перад скачком у ваду. Выцягваю ножку крэсла з ручкі дзвярэй.

— А-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а-а!!!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз два тыдні, калі мяне выпісалі з бальніцы, адбыўся новы сход калектыву. Выбралі новую рэдкалегію — тую старую, што была да нашай.

У калідоры зноў вісіць рамка са старою, у павуціне, выгаралаю газетаю. Толькі намаляваныя паштовая скрынка і пісьмо абноўлены — абведзены зялёнаю і чырвонаю рыскамі. Свежым зіхацяць і падрабленыя фламасцерам літары заклiку: «ПАДАВАЙЦЕ ЗАМЕТКІ Ў НАСТУПНЫ НУМАР НАШАЙ ГАЗЕТЫ!»

А яшчэ на прафсаюзным сходзе вырашылі неадкладна прыступіць да пераатэстацыі рабочых месц, праэкзаменуюць заадно прафесійную прыгоднасць некаторых членаў калектыву. Як падымалі за гэта рукі, усе глядзелі ў мой бок.

Дапісаўся, абармот...

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### НОВЫЯ ПЕСНІ ІГАРА ЛУЧАНКА

Свой новы цыкл песень «Святло Айчыны», напісаны сумесна з паэтам А. Лягчылавым, І. Лучанок прысвяціў 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. У цыкл увайшлі песні «Мая Беларусь», «Жыві, Зямля!», «Якое шчасце — проста жыць» і іншыя. Права першага выканання прадастаўлена вакальна-інструментальнаму ансамблю «Лексіс» Брэсцкай абласной філармоніі.

В. ЛУК'ЯНОВІЧ.

### ЧАРНОБЫЛЬ ПАПЯРЭДЖВАЕ

У Мазырскім народным тэатры атрымала сцэнічнае жыццё п'еса У. Губарава «Саркафаг». Паставіў спектакль рэжысёр М. Колас. У ролях заняты П. Перапеча, С. Петухоў, С. Макаранка, С. Гольдэнберг, Ю. Даўцян і іншыя.

А. САДОХА.

### ВЫДАЦЬ ПРАПАНУЕ ЧЫТАЧ

У красавіку-маі сёлетняга года аддзел сацыялогіі Усесаюзнай кніжнай палаты правёў мэтавае даследаванне, каб выявіць творы, змешчаныя ў літаратурна-мастацкіх часопісах на працягу 1986 і першай паловы 1987 года, з далейшым выпускам іх масавымі тыражамі ў «Бібліятэцы папулярных твораў» (назва ўмоўная). У спіс трапілі поруч з іншымі творамі аповесць Алеся Адамовіча «Апошняя пастараль» і раман Васіля Быкава «Кар'ер». Цяпер гэты спіс газета «Книжное обозрение» вынесла на абмеркаванне.

К. ЯРМОЛІЧ.

### ПОСПЕХ СПЕКТАКЛЯ

Лаўрэат Усесаюзнага конкурсу народны тэатр Палаца культуры Пінскага баваўняна-трыкатажнага аб'яднання паказаў спектакль паводле лірычнай камедыі В. Лукшы «Калі вяртаюцца буслы», у якой закранаюцца вострыя праблемы аховы навакольнага асяроддзя.

Пастаноўку п'есы ажыццявіла галоўны рэжысёр самадзейнага калектыву З. Друп. У галоўных ролях заняты В. Сікора, С. Паніна, Ю. Белякоў і іншыя.

Спектакль аматарскага калектыву, падрыхтаваны ў рамках II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, паказаны таксама Брэсцкім абласным і рэспубліканскім тэлебачаннем.

Ю. ЛЯУКОВІЧ.

### ВЯСЁЛКАЎЦЫ — ШКОЛЬНІКАМ

Даўняя дружба звязвае рэдакцыю часопіса «Вясёлка» з падшэфнай школай-інтэрнатам г. Жлобіна. Супрацоўнікі рэдакцыі не раз былі ў школе, сустракаліся з дзецьмі, а таксама прымалі іх у сябе ў Мінску. Вучні з цікавасцю наведалі выстаўкі, музеі, кафэ «Вясёлка». Былі на экскурсіі ў Доме друку, дзе з цікавасцю паглядзелі, як робяцца часопісы і газеты.

Нядаўна ў дарунак дзецям рэдакцыя сабрала і перадала для школьнай бібліятэкі 760 кніг, частку з якіх — каля 300 — перадаў Літаратурны музей Янкі Купалы.

Т. СЦЯПАНАВА.

### І ЖАРТАМ, І ЎСУР'ЁЗ

Народны тэатр эстрадных мініяцюр «Карусель» Палаца культуры Мінскага трактарнага завода пазнаёміў гледачоў са спектаклем «Вялікія пачуцці...», у аснову якога пакладзены мініяцюры Георгія Марчука, напісаныя на падставе сюжэтаў фальклору. У тым, што спектакль карыстаецца папулярнасцю, немалая заслуга мастацкага кіраўніка і рэжысёра народнага тэатра А. Карыкоўскага.

П. ГАРДЗІЕНКА.

## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ

# Помніць Вена...

Анатоль БАРОЎСКІ

**Чужая краіна — заўсёды ў нечым загадка. Так думалася, калі з групай савецкіх турыстаў адпраўляўся ў падарожжа па Аўстрыі.**

**Праездзілі мы па Альпійскай рэспубліцы не адну сотню кіламетраў, пабывалі ў многіх гарадах, сустракаліся і гутарылі з аўстрыйцамі, і многае нам станавілася зразумелым, хоць многае сэрца і не прымала.**

**У дарожных нататках, якія я прапаную ўвазе чытача, я пазбегнуў апісання прыгажосцей гэтай цэнтральнаеўрапейскай краіны, знакамітых помнікаў культуры, архітэктуры — пра гэта пісалася ўжо незлічоная колькасць разоў, больш мне хочацца расказаць пра тое, што асабліва ўразіла, — а гэта сустрэчы з простымі людзьмі, адным словам, сваё ўласнае адкрыццё чужаземнага народа.**

...У ВЕНЕ мы наведалі памятныя мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю вядомых усяму свету людзей навукі, літаратуры, мастацтва, у тым ліку вялікіх кампазітараў — Моцарта, Бетховена, Шуберта, Штрауса...

Рэвалюцыйнае мінулае Вены таксама пакінула свае помнікі. На ўскрайку акругі Вены — Фларыдсдорфе, узвышаецца вялікі бела-карычневы будынак 20-х гадоў — Карл-Маркс-гоф (Дом імя Карла Маркса). Даўжыня гмаху сотні метраў. У 1934 годзе прамысловы Фларыдсдорф быў цэнтрам паўстання венскага пралетарыяту, а Карл-Маркс-гоф — крэпасцю паўстанцаў, якую карнікі змаглі ўзяць толькі пасля таго, як абстралялі з гармат.

За некалькі дзён у Аўстрыі мы паспелі заўважыць і тое, пра што нам не расказваў гід. Буржуазныя газеты, радыё і тэлебачанне краіны вельмі неахвотна і мала гавораць аб палітычнай і сацыяльнай пасіўнасці шырокіх мас, аб фармальным характары многіх дэмакратычных інстытутаў, дзякуючы чаму рэальная ўлада аказваецца ў руках нязначнай прывілеяванай праслойкі партыйна-прафсаюзных функцыянераў і стаўленнікаў буйнога капіталу. Затое аўстрыйскія сродкі масавай інфармацыі ахвотна расказваюць аб іншым — аб адсутнасці, на іх погляд, дэмакратыі ў сацыялістычных краінах.

У танальнасці «халоднай вайны» асвятляюць аўстрыйскія сродкі масавай інфармацыі і знешнюю палітыку сацыялістычных краін, перш за ўсё — СССР. Паказваць у крывым люстэрку сапраўдныя мэты і задачы савецкай знешняй палітыкі стала традыцыйным прыёмам. Прыклад таму — выкарыстанне міфа аб «савецкай пагрозе». А каб гучала пераканаўча, сродкі інфармацыі паведамлялі аб існаванні нейкага савецкага плана з кодавай назвай «Палярка», аперацыя «Палярка» (маўляў, рускія ўмяшаюцца ва ўнутраныя справы Югаславіі і заадно... нападуць на Аўстрыю)... Смешна? Але факт ёсць факт. Савецкі друк выкрыў правакацыйны характар выдумак «ПалЯркі». У афіцыйных заявах савецкіх і югаслаўскіх прадстаўнікоў указвалася, што такія палітычныя спекуляцыі наносяць шкоду разрадцы, сеюць падазронасць і варожасць паміж народамі.

І ўсё ж нават буржуазны друк прызнае важным фактарам, што садзейнічае палітычнай і эканамічнай кансалідацыі Аўстрыі, здзяйсненне палітыкі пастаяннага нейтралітэту. Больш трыццаці гадоў яна займае гэтую пазіцыю, і нейтралітэт аказвае добры ўплыў на ўсе бакі жыцця Аўстрыі, бо ён не дазволіў уключыць краіну ў агрэсіўныя планы заходніх палітыкаў, якія марылі выкарыстаць яе ў якасці свайго фарпоста ў барацьбе з сацыялістычнымі краінамі. Аўстрыя адыграла ролю фактару стабільнасці на еўрапейскім кантыненце, бо разумее свой гістарычны шанц, сваю ролю і месца ў пасляваеннай Еўропе...

Лінц самы буйны рачны порт краіны, адміністрацыйны цэнтр Верхняй Аўстрыі. На ўсходняй ваколіцы горада на беразе рэчкі добра бачна, як дымяць трубы двух камбінатаў, суднаверфі.

Паўднёвы схіл Шумавы. Гэта суровы, лясісты край. Усходняя частка яго называецца Вальдфіртэль — «лясны раён», заходняя — Мюльфіртэль — «мельнічны раён». А ў сярэдняй частцы левабярэжжа ён прыціснуўся да Дуная. Што і казаць — прыгожа! Мы, канечне ж, хапаемся за фотаапараты. Многія скалы ўвенчаны замкамі або іх развалінамі. Некалі тут атабарваліся разбойнікі. А вунь і замак Дзюрэнштэйн — «сумны камень». Легенды расказваюць, што ў ім пакутаваў у зняволенні Рычард Ільвінае Сэрца. Прыгожы край, надоўга ў памяці застануцца яго непаўторныя пейзажы...

Але наш настрой адразу мяняецца, калі падымаемся трохі вышэй па Дунаі. Наперадзе — былы канцлагер Маўтхаўзен... Кіламетра паўтара ад гарадка, непадалёк ад каменяломні, калі падняцца ўверх, адкрываецца від на гэты жудасны гітлераўскі канцлагер. Сцены яго складзены з мясцовага шэрага каменя, на ім — густыя рады калючага дроту і вартавыя вежы. Мы моўчкі ходзім па сутарэннях, глядзім стэнды з фотаздымкамі, і сціскаецца ад болю сэрца... Чытаем спісы «юных каменяцёсаў», як назывaлі фашысты дзяцей і падлеткаў, — Іван Крыпалаў, 1926 год нараджэння, Коля Лысенка, 1927, Пеця Міхайлаў, 1926... Захаваліся печы крэматорыя, «анатамічны» стол, на якім эсэсаўцы з мёртвых выдзіралі залатыя каронкі, зразалі скуру з татуіроўкай — з яе потым рабілі торбачкі для сваіх фраў... Аглядваем газавую камеру, карцар. З 1938 па 1945 год у Маўтхаўзене знаходзілася 335 тысяч вязняў, з якіх кожны трэці быў расстраляны, атручаны газам, стаў ахвярай «медыцынскіх» доследаў, голаду, хвароб... Тут загінулі дзесяткі тысяч антыфашыстаў, у тым ліку і многія аўстрыйскія патрыёты, 32 тысячы савецкіх людзей.

Мы схіляем галовы перад помнікам Герою Савецкага Саюза генералу Д. М. Карбышаву, маўчым у жалобе, кладзём да падножжа жывыя кветкі. Карбышаў не скарыўся ворагу. Ён і жывым замарожаны глядзіць нескарона ўверх. Белы мармур яскрава перадае апошнія мінуты жыцця героя, калі ён думаў аб радзіме, аб тым, што ніякая сіла не можа парушыць любові да яе...

Ад лагера ад'язджаем з прыгнечаным настроем, і калі вадзіцель уключае ў аўтобусе музыку, просім выключыць — вельмі цяжка было ў кожнага на душы... А мне ўспамінаецца і другі канцлагер — Бухенвальд. На варотах яго захаваўся надпіс «Едэм дас зайн» — «Кожнаму сваё». Уразіла заспіртаванае сэрца савецкага лётчыка. То па загаду жонкі каменданта лагера Эльзы Кох так абышліся з ім.

У тым лагеры фашысты расстралялі выдатнага сына Германіі Эрнста Тэльмана...

...У Зальцбургу нарадзіўся адзін з выдатнейшых кампазітараў свету — Вольфганг Амадэй Моцарт. Наш гід вядзе нас на Гетрайдэгасе № 9 — у дом-музей Моцарта. Гэты будынак захаваўся, хоць моцна быў парушаны ў час бамбёжкі ў 1944 годзе. Сюды ідуць і ідуць людзі — турысты, аматары музыкі. У гонар Моцарта ў Зальцбургу кожны год у ліпені і жніўні праводзяцца музычныя фестывалі, у якіх прымаюць удзел музычныя калектывы і музыканты з усіх краін свету...

Мы шкадавалі, што паездка наша была не летам. Але, аказваецца, наш гід падрыхтаваў нам сюрпрыз: ён загадзя дамовіўся з прафесарам Зальцбургскай кансерваторыі Бернгардам Гфрээрам, што ён выканае на аргане для савецкіх турыстаў некалькі твораў Моцарта, Шуберта і Бетховена.

Гэта былі незабыўныя хвіліны. Асабліва ўразіла «Аве Марыя» Шуберта. Бетховен хваляваў сваёй веліччу, сваёй волатаўскай сілай...

— Я іграў для савецкіх слухачоў у Вільнюсе і Каўнасе, — расказваў нам Бернгард Гфрээр. — У нас устанавіліся культурныя сувязі з Прыбалтыкай. Я іграў яшчэ ў Францыі, Амерыцы, Італіі, Іспаніі... Асабліва спадабалася савецкая аўдыторыя, слухачы там выдатныя. Рады, што і вам спадабалася мая ігра.

Кожнаму з нас музыкант надпісаў аўтограф на праграме міжнародных канцэртаў, у якіх і сам прымаў удзел...

Паўднёва-Усходні раён у складзе Ніжняй Штырыі, Паўднёвага Бургенланда і Усходняй Карынтыі адрозніваецца не толькі характарам сваёй эканомікі, але і неаднародным нацыянальным складам насельніцтва. Тут жывуць аўстрыйцы, славенцы, харваты...

...Фарміраванне аўстрыйскай нацыянальнай тэрыторыі закончылася толькі ў 1779 годзе, калі ад Баварыі адышоў да Аўстрыі Інфіртэль, яшчэ пазней — архіепіскапства Зальцбург. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя ў Расіі дала магутны штуршок нацыянальна-вызваленчаму руху прыгнечаных нацыянальнацей Аўстра-Венгрыі. У выніку ваенных паражэнняў у першай сусветнай вайне габсбургская імперыя распалася. Адначасова з іншымі самастойнымі дзяржавамі ўзнікла і Аўстрыя.

У 1934 годзе аўстрыйскія рабочыя — камуністы і сацыял-дэмакраты ўзняліся на ўзброеную барацьбу супраць аўстрафашызму. Паўстанне захлынулася ў крыві... Праз чатыры гады Гітлер паслаў узброеную да зубоў дывізію на захоп Аўстрыі. Тады Савецкі Саюз быў адзінай краінай, які падняў голас на яе абарону...

У перыяд аншлюса ў Аўстрыі было рэпрэсіравана каля мільёна чалавек. На франтах другой сусветнай вайны загінула 380 тысяч аўстрыйцаў, якіх Гітлер прызваў у вермахт, 150 тысяч чалавек сталі інвалідамі. Звыш 97 тысяч патрыётаў трапілі ў канцлагеры, 2700 пакараны смерцю. У руху Супраціўлення ўдзельнічалі прадстаўнікі розных груп аўстрыйскага насельніцтва, але найбольш актыўна і самааддана змагаліся камуністы. Яны аддалі сваё жыццё за вызваленне сваёй краіны ад нацысцкага ярма...

І тым больш нас здзівіла, што ў Аўстрыі не ўшаноўваецца памяць лепшых людзей краіны — няма музеяў, не пішуцца пра гэта кнігі, не здымаецца кіно. Нейкая белая пляма ў гісторыі. Чаму так атрымліваецца? Аўстрыйцы ў адказ толькі паціскаюць плячамі.

— У канцы сакавіка 1945 года савецкія войскі выйшлі да граніц Аўстрыі, — расказваў мне перад паездкай удзельнік вызвалення Вены гамяльчанін Аляксандр Мікітавіч Курчанка. — За вельмі кароткі час была праведзена цяжкая і кровапралітная аперацыя па разгроме магутнай групоўкі ворага, які ўсімі сіламі імкнуўся стварыць на тэрыторыі Аўстрыі «альпійскую крэпасць». Я ваяваў у складзе 65-га гвардзейскага палка 36-ай гвардзейскай дывізіі, якой камандаваў генерал Лелянкоў. Да сярэдзіны красавіка была вызвалена Вена і ўсходняя частка краіны...

За свабоду і незалежнасць аўстрыйскага народа загінула 28 тысяч савецкіх воінаў. У Вене быў створаны Часовы ўрад Аўстрыйскай рэспублікі, у які разам з прадстаўнікамі Сацыялістычнай партыі Аўстрыі і Аўстрыйскай народнай партыі ўвайшлі і камуністы...

І вось мы на цэнтральных могілках Вены, дзе пахаваны савецкія воіны. Ускладаем кветкі да помніка. Герой Савецкага Саюза гвардыі маёр А. Постны загінуў 12.IV.45 года, гвардыі маёр М. Ельцаў — 18.IV.45, капітан Хамід Аліна Галя Утлінаўна — 26.IV.45 года... Тут пахаваны танкісты гвардзейцы-запарожцы гв. л-нт Ф. Гудкоў, гв. л-нт В. Піменка, гв. ст. л-нт В. Макараў, паўшыя смерцю храбрых у апошняй атацы за авалоданне Венай 13.IV.45 года.

Да падножжа помніка двое пажылых людзей — пэўна, муж і жонка — паклалі букет кветак, пастаялі, памаўчалі. Потым, падышоўшы да нас, пацікавіліся:

— Вы — рускія? Расія — вялікая краіна... Дзякуй вашаму народу, вашым салдатам за вызваленне. У Маўтхаўзене загінуў наш родзіч, не дачакаўшыся вызвалення. Мы не забудзем вашых добрых пачуццяў да нашай радзімы.

...Венскі лес, гара Леапольда. Здавалася, што мы чулі мелодыі Штрауса, яго неўміручыя «Казкі Венскага лесу», калі хадзілі сцежкамі вялікага кампазітара.

Вечарам — сустрэча ў маладзёжным клубе. Знаёміў з яго работай кіраўнік клуба Кунт Кунскі. Сюды прыходзяць у асноўным падлеткі. Іх аб'ядноўвае ўзрост, цяга да музыкі, да кніг. Хлопчыкі і дзяўчынкі выпускаюць плакаты, якія прысвечаны барацьбе за мір, займаюцца спортам, праводзяць дыскатэкі...

— Ёсць у нас і свае праблемы, — расказвае Кунт, які раней быў членам арганізацыі юных сяброў Аўстрыі, цяпер — сацыяліст. — Гэта датычыць і выхавання падлеткаў, пашырэння іх кругагляду. Рускія кнігі?.. Не, у нашай бібліятэцы, на жаль, іх няма. Я маю на ўвазе ў перакладзе на нямецкую мову. Друк і радыё

мала расказваюць пра жыццё вашай краіны. Мы нават не ведаем пра вядучыя вашы ансамблі, не ведаем вашых спевакоў, сучасных пісьменнікаў...

Такія клубы створаны ў кожным мікрараёне. Дзяржава выдаткоўвае сродкі на набыццё музычнай апаратуры, для *правядзення* мерапрыемстваў і заняткаў у гуртках. Работнікі клуба — штатныя работнікі, атрымліваюць зарплату.

...Знаёмства з горадам працягваецца. Сяджу ў парку, чакаю, калі падыдуць астатнія з групы.

— Дазвольце прысесці, — пачуў я ціхі голас.

Побач стаяў немаладога веку мужчына, няголены, у балонневым сінім паліто.

— Пачуў, што на рускай мове размаўляеце, захацелася пагаварыць, калі не супраць... Тры гады я ўжо тут са сваёй сям'ёю. З Мінска я... Працаваў урачом. Тут спрабаваў уладкавацца, але... Жонка прыбіральшчыцай працуе. Тут нас шмат такіх, на Мехіка-плац трымаюць лаўкі, але ў многіх я бачу сум у вачах. Не за тым шчасцем прыехалі. На радзіму цягне. Спачатку я пасылаў сваякам пасылкі з моднымі рэчамі, фотаздымкі каляровыя, хацеў паказаць, як мы добра жывём... А потым перастаў. Шкадую, што паехаў, а цяпер не ведаю, што рабіць...

— Вяртайцеся, — гавару я яму.

— А ці пусцяць? — ён глядзіць на мяне, чакае, быццам ад маіх слоў нешта залежыць. — Многія хочуць вярнуцца, але... Хаця мне сястра прыслала пісьмо і піша, што *паказвалі па тэлебачанні*, як вярнуліся землякі на радзіму. Піша, што цалавалі зямлю, як выйшлі з самалёта...

На плошчы Штэрнэ-плац, што каля Паўночнага вакзала, нечакана разгаварыліся з групай моладзі. Тэма размовы — на планеце назапашаны горы зброі. І страшна нават уявіць, які будзе выбух, калі нехта падпаліць той «бікфордаў шнур»... Ці не загіне планета ў ядзерным пажары? І ці ўвогуле ёсць будучае ў нашай цывілізацыі?

Пытанні для іх нечаканыя. Адзін нахмурыўся, нібы абдумваючы пытанне, потым сказаў:

— Мы рэдка гаворым на такія тэмы. Праўда, ведаем, што ваша краіна выступае супраць палітыкі канфрантацыі, за дзелавыя і сумленныя перагаворы па абмежаванні ўсіх відаў узбраенняў, за мірнае суіснаванне дзяржаў з розным грамадскім строем, за разрадку напружанасці. Мы сачылі і за Венскімі сустрэчамі на высокім узроўні, але нас не інфармавалі падрабязна...

— Вы за мір, але чаму вашы салдаты ў Афганістане? — спытаў другі, з барадой, і паглядзеў на нас з выклікам.

— Мы выконваем інтэрнацыянальны абавязак, мы ніколі не пакідаем сяброў у бядзе.

— Мой знаёмы нядаўна вярнуўся з Беларусі, — уступае ў размову яшчэ адзін малады аўстрыец. Пазірае дружалюбна, усміхаецца.—У Жлобіне, што пад Гомелем, ён удзельнічаў у будаўніцтве металургічнага завода, працуе зараз у дзяржаўнай аўстрыйскай фірме «Фёст-Альпіне». Быў ён і на Наваліпецкім металургічным заводзе, працаваў і будаваў іншыя прадпрыемствы ў вашай краіне. Ён добра гаварыў пра вашых людзей, маўляў, яны жывуць спакойна, не хвалююцца за заўтрашні дзень, за работу, за дзяцей.

Апошні дзень нашага знаходжання ў Аўстрыі. Вечарам мы ходзім па вуліцах, асветленых яркай рэкламай. Хочацца верыць, што помняць венцы вясну сорак пятага, помняць, якой цаной досталася вызваленне.

І няхай ніколі не згасае тая памяць, як і добрыя адносіны паміж дзвюма краінамі. І толькі мір будзе ўмацоўваць іх непарыўную дружбу.

МУЗЫКА

# Аркестр і яго кіраўнік

**Мастацкаму кіраўніку і галоўнаму дырыжору Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР заслужанаму дзеячу мастацтваў рэспублікі Юрыю Яфімаву спаўняецца 50 гадоў**



**Біяграфія яго падобная да біяграфій многіх людзей, што прысвяцілі сябе мастацтву: музычная школа, вучылішча, кансерваторыя... Ды вось адзін факт адрознівае яго ны лёс ад многіх: хлапчуком перажыў вайну, ленінградскую блакаду. Блакадная хвароба. Прысуд урача: «Жыць не будзе». Але — жыццё перамагло.**

**І вось — дзень сённяшні. Ён — галоўны дырыжор аркестра, у якім працуе з 1965 года. Скончылася чарговая рэпетыцыя, і мы гутарым з Ю. Яфімавым.**

**— Юрый Міхайлавіч, перабудова ў нашай краіне адбываецца ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і ў сферы мастацтва, вядома. Што б вы сказалі пра перабудову ў дачыненні да сваёй працы?**

— У сваіх асабістых планах я ўспрыняў перабудову як штуршок да інтэнсіўнага ўдасканалення прафесійнага майстэрства. Маючы пэўныя набыткі, нейкі вопыт, прафесійны багаж, здавалася б, можна і супакоіцца, ды жыццё цяпер такое, што супакойвацца не выпадае. Трэба рухацца! І рухацца толькі наперад. У мяне намечана шырокая праграма самаўдасканалення, калі так можна сказаць. Думаю, калі кожны член нашага калектыву максімальна павысіць свой выканаўчы ўзровень (а гэта немагчыма без пастаяннага павышэння свайго культурнага ўзроўню ў цэлым) — упэўнены, карысць будзе вялікая і аркестру, і слухачам.

**— Я так зразумеў, што ў калектыве вашым увогуле ўсё ў парадку...**

— Сказаць, што ў нас няма праблем, было б няправільна. Напрыклад, усе мы (і аркестранты, і кіраўніцтва філармоніі) разумеем, што лепшы выпускнік-інструменталіст Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, скажам, скрыпач або духавік, павінен працаваць у нашым аркестры. Бо дзяржаўны аркестр — гэта ж паўпрэд рэспублікі ў сферы мастацтва! Ды на практыцы гэтак не адбываецца з-за таго, што часцей за ўсё ў такога выпускніка няма мінскай прапіскі. Не меншы тормаз у вырашэнні праблемы размеркавання лепшых выпускнікоў у наш калектыў — кватэрнае пытанне. Такім чынам, лепшыя кадры едуць, як правіла, на перыферыю і займаюцца там педагагічнай працай. Гэта мае, зразумела, свой станоўчы аспект, але ж яркія музыканты-выканаўцы патрэбны найперш выканаўчаму калектыву.

Далей. Справа прапаганды сімфанічнай музыкі для дзяцей вядзецца ў нас няблага: лекцыі, спецыяльныя канцэрты і г.д. А вось што датычыць студэнцкай аўдыторыі, дык тут ёсць над чым памеркаваць. Як наладзіць кантакт са студэнцкай моладдзю? Мінск — горад студэнцтва, а ці адчуваем мы гэта на сваіх канцэртах?

**— Я ведаю, што сімфанічны аркестр часта наведваецца ў Беларускую сельгасакадэмію ў Горках. Можа, у гэтых кантактах — прыклад і для іншых навучальных устаноў рэспублікі?**

— Вось тут якраз такі выпадак, калі старая форма, сама па сабе быццам і неблагая (лекцыя-канцэрт), але як бы закансерваваная ў сваёй стабільнасці, — пачала спакваля рэгрэсіраваць. Справа ў тым, што ў сельгасакадэміі апошнім часам стала непрыемна выступаць. Акадэмія перастала цікавіцца сімфанічнай музыкай. Што тут рабіць, якія формы шукаць, каб зацікавіць людзей сур'ёзнай музыкай, — не ведаю. Трэба думаць. Думаць і знаходзіць. Аддаць усё на водкуп танненькай эстрадзе нельга ні ў якім разе. Дарэчы, тут я асабіста вельмі спадзяюся на нядаўна ўтворанае Беларускае музычнае таварыства. У ліку галоўных праблем, над якімі давядзецца працаваць таварыству, думаю, будзе праблема прапаганды сур'ёзнай музыкі, інструментальнай і харавой у аднолькавай ступені... Словам, праблем дастаткова.

**— Сёлета вы будзеце адкрываць юбілейны, 50-ты сезон Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Чым парадуеце слухачоў?**

— У Мінску і ў іншых гарадах рэспублікі будуць наладжаны канцэрты з запрашэннем дырыжораў, салістаў з братніх рэспублік. Плануюцца аўтарскія канцэрты Г. Свірыдава, С. Губайдулінай, Д. Смольскага, А. Багатырова, П. Альхімовіча.

**— Вы ўжо 22 гады працуеце з нашым сімфанічным аркестрам. Ці адчулі вы перамены ў беларускай сімфанічнай музыцы за гэты час?**

— Вядома. Беларуская сімфанічная музыка стала значна шырэйшая па светаадчуванні. Прыкметна ўзбагацілася палітра сімфанічнага пісьма. У сённяшняй нашай музыцы прысутнічаюць амаль усе сучасныя плыні, і ў той жа час яна не страціла свой нацыянальны характар. Прыклады? Сімфоніі Дзмітрыя Смольскага: Другая, Трэцяя, Чацвёртая. «Ціль Уленшпігель» Яўгена Глебава. Ёсць адметныя творы і ў іншых аўтараў. Дарэчы, маладыя нашы кампазітары няблага зарэкамендавалі сябе ў сімфанічным жанры.

**— Жанр развіваецца, ды ў той жа час узрастае праблема прапаганды сімфанічнай музыкі. Нават, як вы ўжо казалі, у такім буйным сталічным горадзе, як Мінск...**

— Не сакрэт, што ў Мінску вялікі працэнт насельніцтва — нядаўнія вяскоўцы, а ў вёску сімфанічная музыка належным чынам не даходзіць. Ды нягледзячы на гэта, ёсць у нас вялікія аматары гэтай музыкі. Я іх адчуваю нават... «спіною».

**— А ў іншых гарадах рэспублікі такіх аматараў менш?**

— Гэта як сказаць. Канечне, і сам Мінск большы за іншыя гарады, і ў мінчаніна больш магчымасцей трапіць на сімфанічны канцэрт. Аднак у тым горадзе, дзе няма сімфанічнага аркестра (а гэта значыць, ва ўсіх абласных і раённых цэнтрах), прыезд аркестра на гастролі ўспрымаецца калі не як дзіва, дык як выпадак рэдкі. І кожны адукаваны культурны чалавек, не гаворачы ўжо аб сапраўдных аматарах гэтага жанру, канечне ж, не адмовіцца ад магчымасці пабываць на канцэртах. Іншая справа, што трэба паляпшаць арганізацыю гастрольных канцэртаў, удасканальваць рэкламу, клапаціцца пра больш прыстасаванае памяшканне.

Так, няма добрых канцэртных пляцовак для музыкантаў нашага жанру. Скажам, у Гомелі летам мы заўсёды іграем у парку пад адкрытым небам. Калі гучыць папулярная сімфанічная музыка — гэта яшчэ сяк-так можна дапусціць. Можна сядзець, стаяць, шпацыраваць, слухаючы, скажам, «*Танец маленькіх лебядзяў*» П. Чайкоўскага ці уверцюру да оперы «Кармэн» Ж. Бізэ. Але ж даводзіцца іграць і сімфоніі І. Брамса, Я. Глебава, Д. Смольскага і г.д. Вось у Маскве ў Зале кансерваторыі ці ў Ленінградзе ў Вялікай зале філармоніі вы ніколі не пачуеце выступленні, дапусцім, «Песняроў» або штосьці ў жанры цяжкага рока. Так што, ідучы ў гэтыя залы, чалавек ужо мае адпаведны настрой на музыку, якая тут звычайна гучыць. І такога слухача мы называем нашым, і рады іграць іменна для яго. А што атрымліваецца на адкрытых пляцоўках?.. Дарэчы, на іх даводзіцца іграць і Мінскаму камернаму аркестру. І гадоў дваццаць гаворым мы *пра тое, што ў парках павінны* быць летнія залы для сур'ёзных канцэртаў. Дарэчы, і для праграм іншых, больш лёгкіх жанраў, яны былі б прыдатныя. Гаворым — але дасюль нічога не зроблена.

**— Юрый Міхайлавіч, вы, напэўна, цікавіцеся справамі ў аркестрах іншых гарадоў краіны?**

— Вядома. І вось што хачу сказаць. У нашым, беларускім аркестры створаны ўсе ўмовы для нармальнай працы: склад укамплектаваны, інструменты добрыя, атмасфера ў калектыве спрыяльная для творчасці. Жыллёвае пытанне па меры магчымасці вырашаецца і, думаю, набліжаецца той час, калі пытанне гэтае будзе вырашана цалкам. У нашым аркестры добрыя музыканты, многа моладзі. У сэнсе прафесіяналізму нашых артыстаў — няма на што скардзіцца.

**— А што можаце сказаць пра рэпертуар? Я разумею, у дырыжора не можа быць нелюбімага твора, калі ўжо ён уключаны ў праграму. І ўсё ж...**

— Лічу, што на першай жа рэпетыцыі дырыжор павінен унушыць аркестрантам, што твор, над якім пачынаецца праца, — адзін з лепшых. Інакш аркестр не зайграе з поўнай аддачай. Вядома, адносіны дырыжора да твора перадаюцца, як правіла, і аркестрантам, і ад гэтага залежыць мера поспеху таго твора ў канцэрце. Асабістая мая прыхільнасць — работа над творамі вакальна-сімфанічнымі, мне падабаецца працаваць з хорам. Ніводны, нават самы дасканалы музычны інструмент не здатны замяніць па сваёй выразнасці чалавечы голас.

**— Ніколі не хацелася вам стаць оперным дырыжорам?**

— Па шчырасці, было такое жаданне. Аднак у оперы даволі доўга даводзіцца «сядзець» на адным і тым жа рэпертуары. У аркестры ж філармоніі пяць-шэсць рэпетыцый — і новая праграма. За дваццаць з лішнім гадоў працы я ўцягнуўся менавіта ў такі рытм, і мяняць яго пакуль не хочацца.

**— Тым не менш, да Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР вы, канечне, ставіцеся з цікавасцю і маеце сваё прафесійнае меркаванне пра гэты калектыў...**

— Добры аркестр, добрая вакальная трупа, разнастайны рэпертуар у нашым тэатры. Так што глядзіш староннім вокам, і складваецца ўражанне, што там усё як мае быць. Адно толькі мяне бянтэжыць: ненармальнае стаўленне да артыста з боку адміністрацыйных органаў. Што маю на ўвазе? Салісту оперы, каб паехаць на гастролі (не толькі з нашым аркестрам, вядома), трэба аформіць і падпісаць стос недарэчных папераў, абавязкова з яго най зарплаты павінны быць зроблены нейкія вылічэнні. Нават абавязкова патрабуецца даведка, што тэатр дазваляе выступіць спеваку ў выхадны для яго, спевака, дзень і г.д., і да т.п. Думаю, утворанае нядаўна Беларускае музычнае таварыства павінна тут навесці належны парадак, перагледзець, зрабіць больш простай цяперашнюю бюракратычную сістэму даведак. Варта даваць артысту больш віднае месца, калі ён гэтага заслугоўвае.

**— Ну а каб заслужыць...**

— Перш за ўсё, трэба нястомна працаваць. І працаваць, я ўжо гаварыў пра гэта, над павышэннем свайго культурнага ўзроўню, пашыраць уласны кругагляд. Як бы шпарка ні бегалі пальчыкі па клавішах інструмента, якою высокай ні была б выканаўчая тэхніка ў любым відзе мастацтва, — *калі чалавек* недастаткова адукаваны, калі абмежаванае кола яго ных інтарэсаў, ён ніколі не будзе адметным музыкантам, артыстам.

**— Дзякую, Юрый Міхайлавіч, за гутарку.**

Гутарыў **Арнольд ДЫБЧА.**

Фота А. КАЛЯДЫ.

## ПА ЗАКАЗЕ БАЛЕТА КУБЫ

**Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Сяргей Картэс закончыў работу над балетам «Апошні інка». Беларускі кампазітар напісаў гэты твор па заказе Нацыянальнага балета Кубы. Аўтар літаратурнага сцэнарыя — аргенцінскі пісьменнік-камуніст Альфрэда Варэла, актыўны змагар за мір, сябар Савецкага Саюза. Лібрэта Густава Эрара і Рыкарда Рэймена. Харэаграфія Густава Эрара.**

**Н. ЗАХАРАВА.**

# Дырэктар

## нарыс

«Радыкальныя пераўтварэнні гаспадарчага механізма мы пачынаем з асноўнага звяна эканомікі — прадпрыемства і аб'яднання... Менавіта тут разгортваюцца галоўныя эканамічныя працэсы, тут працай людзей ствараецца ўся патрэбная народу прадукцыя і паслугі, матэрыялізуецца навукова-тэхнічная думка. Менавіта ў працоўным калектыве рэальна складваюцца эканамічныя і сацыяльныя адносіны, пераплятаюцца інтарэсы людзей — асабістыя, калектыўныя і грамадскія. Па сутнасці сацыяльна-палітычны клімат у нашым грамадстве ў многім вызначаецца абстаноўкай, якая складваецца ў працоўных калектывах».

(М. С. Гарбачоў. Даклад на чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС).




**Мінскі электратэхнічны завод імя В. І. Казлова. Адно з вядучых у краіне прадпрыемстваў па вырабе сілавых размеркавальных трансфарматараў магутнасцю ад 25 да 400 кілават, комплексных трансфарматарных падстанцый. 5 тысяч рабочых. Гадавы аб'ём прадукцыі — 100 мільёнаў рублёў. Дырэктар — Казлоў Аляксандр Пятровіч. 54 гады. Адукацыя — вышэйшая тэхнічная. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.**

Такая экспазіцыя нашага расказу.

Калі мы дамовіліся з Казловым аб сустрэчы, я быў кінуўся шукаць літаратуру па электратэхніцы, каб быць хоць трохі «на ўзроўні», ды ў час спахапіўся — не пра электратэхніку збіраюся ж я пісаць...

Шчыра кажучы, вельмі здзівіў мяне дырэктар у тую першую сустрэчу. І сустрэў ветліва, і кожны раз прасіў прабачэння, калі званіў тэлефон, але на пытанні карэспандэнта адказваць адмовіўся. У нейкі момант уважліва паглядзеўшы на мяне (вочы ў яго аказаліся па-маладому блакітнымі, — гэта пры зусім сівой галаве), ён усміхнуўся:

— Мяне, відаць, будуць здымаць з работы... Вось чакаю званка з Масквы.

Я ўспомніў, як у нашай размове ахарактарызаваў Казлова адзін з сакратароў Мінскага гаркома партыі («выдатны дырэктар»), і падумаў, што Аляксандр Пятровіч не вельмі ўдала жартуе. Ды аказалася, што ў яго сапраўды былі сур'ёзныя непрыемнасці. У чым справа? Саюзнае Міністэрства электратэхнічнай прамысловасці, якому падначалены завод, валявым парадкам абавязвала яго ўзяцца за выраб дадатковай наменклатуры. Тлумачылася гэта да наіўнасці проста — Курганскі электратэхнічны завод у Казахстане, які выпускае гэтую прадукцыю, план заваліў, і, каб не сапсаваць міністэрскія паказчыкі, вырашана было дадаткова нагрузіць мінчан. Казлоў наадрэз адмовіўся, матывуючы гэта тым, што магутнасці завода загружаны пад завязку, і новая наменклатура дэзарганізуе ўсю вытворчасць. Да такога непаслухмянства ў міністэрстве не прывыклі і дырэктара пачалі палохаць звальненнем. Аляксандр Пятровіч стаяў на сваім: хутчэй складзе з сябе дырэктарскія абавязкі, чым дазволіць шкодзіць прадпрыемству.

Казлоў, як мне расказалі на заводзе, у тым канфлікце перамог. Яшчэ год назад міністэрскае начальства нізавошта б не адмовілася ад свайго валюнтарысцкага рашэння, ды час быў ужо іншы — здарылася гэта перад чэрвеньскім Пленумам ЦК КПСС, дзе, як чакалася, будзе весціся гаворка аб удасканаленні гаспадарчага механізма, наданні прадпрыемствам большай самастойнасці.

**Уяўляю, як бы сёй-той з пішучай брацii ўчапіўся б за гэты канфлікт дырэктара з міністэрствам, пабудаваўшы на ім увесь нарыс. Расказвалася б у ім пра бяссонныя ночы героя, яго душэўныя пакуты, ваганні, сямейную драму, — адным словам, быў бы ўжыты ўвесь «джэнтльменскі набор» штампаў, якія быццам бы павінны характарызаваць унутраны свет чалавека. Калі я чытаю такое, дык міжволі чырванею ад сораму за калегу. Заўсёды ў такіх выпадках думаю, што павінен адчуваць, чытаючы такое пра сябе на газетнай старонцы, рэальны герой «нарыса».**

Гісторыя «зняцця з работы» была ці не адзінай, якую наогул пачуў я з вуснаў Казлова. Чалавек па натуры стрыманы, з тых, пра каго гавораць: зашпілены на ўсе гузікі, ён не надта раскрываўся перад незнаёмым наведвальнікам, няхай сабе і карэспандэнтам.

І ўсё ж сёння я магу з поўным правам сказаць, што ведаю пра Казлова нямала — і як пра чалавека, і як пра дырэктара. Не з яго расказу (я звычайна выходзіў з дырэктарскага кабінета з пустым блакнотам) — з расказаў завадчан. Запісаў гаворак з імі ў мяне цэлы блакнот. Кожны гэты запіс — своеасаблівае «шкельца» ў партрэт дырэктара, партрэт, вядома, мазаічны і незавершаны. Ды такой бяды. Астатняе хай чытач дадумае сам.

Вось адно такое «шкельца».

Неўзабаве пасля канфлікту з міністэрствам узяў Казлоў ды паслаў на курганскі завод (з-за якога, фактычна, разгарэлася тая спрэчка) групу вопытных рабочых на чале з лепшым заводскім брыгадзірам, каб дапамагчы калегам выйсці з прарыву. З гэтай задачай мінчане паспяхова справіліся...

Прыйшоў Аляксандр Пятровіч на завод дырэктарам сем гадоў назад з пасады сакратара парткома Мінскага трактарнага завода. На трактарным папрацаваў аж дваццаць восем гадоў: быў майстрам, старшым майстрам, энергетыкам, намеснікам галоўнага энергетыка, галоўным энергетыкам, намеснікам галоўнага інжынера завода і, нарэшце, сакратаром парткома... Калі яму прапанавалі заняць дырэктарскае крэсла на электратэхнічным заводзе, разгубіўся. Па-першае, моцна прыкіпеў да свайго трактарнага; па-другое, аб дырэктарскай пасадзе ніколі не думаў. Яму сказалі: па спецыяльнасці вы энергетык, значыць, профіль завода вам блізкі, як сакратар парткома, як партыйны работнік з людзьмі працаваць умееце. Даў згоду. Ды, хоць завод побач, ад прахадной аднаго да прахадной другога некалькі мінут хады, шлях гэты напачатку падаўся Казлову доўгім.

Дырэктар — навічок. Адчуваў гэта спачатку вельмі востра. Асабліва, калі бываў у цэхах, калі сустракаў запытальныя, а то і трывожныя позіркі рабочых. Чытаў у вачах пытанне: які ж ты, новы дырэктар, чаго ад цябе чакаць?

Стары дырэктар, папярэднік Казлова, папрасіўся застацца на заводзе на інжынернай пасадзе. Казлоў не пярэчыў, чым сяго-таго здзівіў. Знайшліся дарадцы, што раілі не рабіць гэтага: маўляў, будзе былы дырэктар раўніва сачыць за кожным вашым крокам. Расказваюць, што Казлоў так зірнуў на таго дарадцу, што той адразу ж вышмыгнуў з кабінета...

Які сэнс укладваюць людзі ў паняцце — дырэктар? Пра папярэдніка Казлова і цяпер гавораць, што гэта быў вельмі просты і чулы чалавек. Пачынаў ён на гэтым заводзе рабочым, з цягам часу дарос да дырэктара, але свайго брата-рабочага не цураўся. Аднак жа адзін з ветэранаў завода з'едліва заўважыў: «Што просты быў, дык тут не запярэчыш — з кожным рабочым за руку здароўкаўся. Але паспрабуй папрасі што — дык паабяцае, але нічога не зробіць. Дзесяцігоддзямі людзі стаялі ў чарзе на кватэры...»

Адной з першых акцый новага дырэктара было «выбіванне» дадатковых лімітаў на будаўніцтва жылля. Што ні год, то дамагаўся павелічэння лімітаў. Трыста тысяч, пяцьсот тысяч, восемсот, а ў будучым годзе на будаўніцтва жылля будзе выдаткавана больш за мільён рублёў. Пабудаваны базы адпачынку ў Крыме, у Лагойскім раёне, на Заслаўскім вадасховішчы...

Неяк на сходзе работніцы паскардзіліся, што цяжка набыць талоны ў пральню самаабслугоўвання. Пачуў пра гэта Казлоў, і неўзабаве ў адным з цэхаў пачалі абсталёўваць сваю заводскую пральню. Я там быў. Стаяць у рад новенькія пральныя машыны, прасавальныя агрэгаты. Чыста, утульна. Гарадскія пральні камунальнай службы з заводскай — не параўнаць. Дарэчы, заводская пральня самаабслугоўвання — першая ў Мінску. Ёсць на заводзе і свая хімчыстка.

У цэхах я звярнуў увагу на незвычайныя збудаванні. На невялікай пляцоўцы, абгароджанай невысокай кафельнай сценкай, абсталяваны ўмывальнік, побач — некалькі столікаў з крэсламі. Мне растлумачылі, што гэта своеасаблівыя сталоўкі для тых, хто прыносіць полудзень з дому. Ну, а хто хоча паабедаць у сталоўцы — калі ласка, сталоўкі ёсць амаль ва ўсіх цэхах, і кормяць там сытна і смачна, ведаю пра гэта не з расказаў...

Як ацэньваюць завадчане чалавечыя якасці свайго дырэктара? Амаль усе адказваюць аднолькава: строгі, вельмі строгі. І дадаюць, бы апраўдваючы яго: дырэктар і павінен быць такім. Ужо як легенду расказваюць пра выпадак, што адбыўся ў першыя дні прыходу Казлова на завод. На нарадзе ў кабінеце дырэктара адзін з вядучых інжынераў, звяртаючыся да яго, сказаў: «Ведаеце, Пятровіч...» Казлоў, холадна бліснуўшы вачамі, перапыніў яго: «Я вам не Пятровіч, у мяне ёсць імя і імя па бацьку». Інжынер прыкусіў язык, астатнія пераглянуліся: маўляў, прыслалі на нашу галаву...

Сёння пра гэты эпізод расказваюць з усмешкаю. Людзям падабаецца, што з усімі дырэктар роўны, з усімі — на «вы», нават з учарашнім навучэнцам прафесійнага вучылішча. Спачатку гэтае халадноватае «вы» бянтэжыла. Стары дырэктар мог падысці і паляпаць па плячы, пажартаваць, нават адпусціць салёнае слоўца. А гэты... Ды хутка на перакурах пачалі весціся такія размовы: «Дык жа мы, хлопцы, пры Казлове зарабляем больш, чым раней, і завод наш вунь як пайшоў угору, на першым месцы ў міністэрства, каторы год Чырвоныя сцягі атрымоўваем...»

Кажуць, што чалавек — гэта стыль. Нязменны стыль Казлова — арганізаванасць, абавязковасць. Узяць тыя ж аператыўкі. Некалі, пры мінулым дырэктары, яны доўжыліся і гадзіну, і дзве. Крык, шум, ніхто нікога не слухае, нешта дырэктару абяцаюць, хоць усе ведаюць — выканана гэта не будзе. Казлоў з першага дня павёў так, каб аператыўка цягнулася не больш за дваццаць — дваццаць пяць мінут. Канкрэтная размова. «Учора, Аляксандр Пятровіч, не паспелі адгрузіць трансфарматары, не далі транспарту...» — «Што зроблена, каб сёння да адзінаццаці адгрузіць?» — «Вы ведаеце...» — «Ведаць павінны вы, гэта ваш участак. У адзінаццаць чакаю рапарту аб выкананні». Не было выпадку, каб яго распараджэнне не было выканана. Здзіўляюча яго ўчэпістая памяць — помніць, калі і што каму сказаў, якую справу даручыў. Можа выклікаць і праз паўгода: «Памятаеце нашу размову пятнаццатага сакавіка? Сёння акурат выйшаў тэрмін. Зроблена?»

Педант? Можа быць. Мы чамусьці гэтае слова вымаўляем з пэўнай доляй пагарды. Маўляў, зануда. Я ўспамінаю выдатны нарыс Анатолія Аграноўскага, дзе ішла гаворка пра рабочага аднаго з авіярамонтных прадпрыемстваў, якога не любілі ў цэху за яго прыдзірлівасць, педантызм. «Але калі б мне далі магчымасць выбіраць, на якім самалёце паляцець, — пісаў аўтар, — я б выбраў самалёт, адрамантаваны педантам. Можна было быць упэўненым, што ўсе гайкі тут дакручаны да канца, усе дроцікі запаяны строга па інструкцыі...»

Што на гэта скажаш? Калі б такі педантызм у рабоце ўкараніўся ўсюды, не спатрэбілася б браць павышаныя абавязацельствы, выдумляць «сустрэчныя планы», выконваць за год па пяць гадавых норм.

Педанты, педанты... Не хапіла іх, відаць, і на Чарнобыльскай АЭС, і на цеплаходзе «Адмірал Нахімаў», і ў іншых месцах, дзе расхлябанасць, халатнасць, прыблізнасць прыводзілі да бяды.

«Будзе парадак, будуць і людзі як след ставіцца да сваіх абавязкаў, — сказаў мне начальнік аднаго з цэхаў. — Калі людзі, як раней гэта ў нас было, па паўмесяца сядзяць без работы, а потым пачынаецца штурмаўшчына, дык у іх наогул дэфармуецца рабочае сумленне. Мы ж працуем цяпер рытмічна, аднолькава загружаны «пад завязку» і ў першы дзень месяца, і ў апошні».

Дырэктар, якому я перадаў гэтыя словы, заўважыў, што лічыць першаасновай усяго, у тым ліку і «рабочага сумлення», эканамічныя фактары, матэрыяльную зацікаўленасць. Людзі будуць добра працаваць, калі ім будуць добра плаціць.

Я кажу Казлову, з якой цікавасцю ўсе мы ўспрынялі дакументы чэрвеньскага Пленума ЦК КПСС, прыняты Вярхоўным Саветам СССР Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве і... сустракаю яго запытальны позірк. Спахопліваюся: для яго ўсе гэтыя «пафасныя» «З вялікай увагай», «З вялікай радасцю ўсе, як адзін...»выклікаюць прыкрасць. Вунь, на стале газета з Законам, тэкст яго ўвесь спярэшчаны алоўкам. Значыць, прачытаў не адзін раз, павярочваючы кожную выснову жыццём, заводскімі буднямі.

Я ведаю ўжо, што Закон не заспеў завод знянацку, што многае з таго, што трэба будзе зрабіць, ужо зроблена. Яшчэ ў 1984 годзе тут пачаў ажыццяўляцца эксперымент, мэта якога — паказаць эфектыўнасць метадаў гаспадарчага разліку і самафінансавання. Не ўсё ў гэтым эксперыменце атрымалася. Перашкаджалі старыя прынцыпы кіравання зверху і наверсе. Парушалася асноўнае — эканамічная справядлівасць. Завод выдатна спраўляўся са сваімі абавязацельствамі, меў высокі прыбытак і лагічна было чакаць, што ён за гэта будзе мець пэўныя матэрыяльныя выгоды. Адна з такіх выгод — фонд матэрыяльнага заахвочвання. Ды сядзіць у міністэрстве чыноўнік і адвольна абмяжоўвае той фонд. У цябе зрэжам, бо ты і так выконваеш план, а таму дабавім, бо ён у прарыве, і людзей там трэба матэрыяльна заахвоціць.

Я кажу Казлову, што калі Закон аб дзяржаўным прадпрыемстве ўвойдзе ў сілу, той чыноўнік не пасмее так свавольнічаць.

— Мы на гэта таксама спадзяёмся, — адказвае ён.

Аляксандр Пятровіч усім сэрцам за Закон. Многае з таго, што там запісана, ён даўно ўжо выношваў у думках. Ён лічыць, што працаваць стане цікавей, але, вядома, не лягчэй. Я слухаю яго і думаю, што ў такіх людзей, як Казлоў, адказнасць — натуральны стан душы. Але ж ёсць нямала кіраўнікоў, якія баяцца адказнасці, як чорт крыжа, — баяцца, бо прывыклі, што дзяржава водзіць іх, так сказаць, за ручку. Адпусці — самастойна кроку не зробяць, паваляцца. Аляксандр Пятровіч лічыць, што само жыццё прымусіць зараз пазбаўляцца ад такіх кіраўнікоў. «Яны неўзабаве самі адсеюцца», — кажа ён.

Казлоў лічыць, што пакуль стабілізуецца эканоміка, сваю пазітыўную ролю павінен адыграць нарматыўны метад гаспадарання. Але ў Законе прадугледжана, што частку сваёй прадукцыі завод зможа пусціць у аптовы гандаль. Скажам, без усякага ліміту прадаць таму ж калгасу трансфарматар па аптовай цане. Але дырэктар глядзіць яшчэ далей. Ён лічыць, што ў рэшце рэшт у гаспадаранні будзе пераважаць прынцып попыту. Кожны будзе купляць тое, што выгадна, зручна, а не што прапаноўваюць па ліміце. Завод ужо зараз мог бы прапанаваць рынку канкурэнтназдольную прадукцыю.

На заводзе пабачыў я своеасаблівую выстаўку выпускаемых тут трансфарматараў. Сярод іх — герметычныя сілавыя трансфарматары ў гафрыраваных баках, якія вырабляюцца ў краіне толькі на гэтым заводзе. Паказалі мне трансфарматары, узнагароджаныя залатым медалём на міжнародных выстаўках у Лейпцыгу і Брно. Уся прадукцыя мае шырокі дыяпазон выкарыстання — гарадскія і сельскія электрасеткі, атамныя, цеплавыя і гідраўлічныя электрастанцыі, кар'ерныя экскаватары і г. д.

...Яшчэ раз пераглядзеў у блакноце запісы. Амаль усе выкарыстаў. Засталося, праўда, некалькі цёмных «шкельцаў». Хацеў выкарыстаць іх таксама ў мазаічным партрэце. Ды перадумаў. Хай у гэтай мазаіцы пераважаюць светлыя тоны. Яны больш адпавядаюць арыгіналу.

**Міхась ЗАМСКІ.**

# Каб кніга служыла перабудове

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4.

тае пытанне мне, у сваю чаргу, хацелася б і ў вас запытаць: а што б вы сказалі, калі б у кнігарнях паліцы былі пустыя? Кнігарня без кніг — гэта не кнігарня. У ёй заўсёды павінны быць кнігі, каб кожны пакупнік мог прыйсці і выбраць сабе неабходную.

Як сведчыць статыстыка, кнігі, што выдаюцца ў рэспубліцы, разыходзяцца за 3—4 гады на 96—97 працэнтаў. Паказчык нібыта і не благі. Але пры цяперашніх маштабах кнігавыдання рэштка ў 3—4 працэнты выяўляе сабой вялікую колькасць кніг. Напрыклад, па імянному ўліку (гэта значыць па назве кожнай кнігі) на 1 студзеня 1986 года рэштка літаратуры, выдадзенай у 1982—1984 гадах, склала каля двух мільёнаў экземпляраў, прычым 731 тысяча экземпляраў — гэта мастацкая літаратура, у тым ліку і кнігі для дзяцей. Вядома, што такое становішча працягвацца не можа. Мы ведаем, што ёсць аўтары, не гаворачы ўжо аб класіках, кнігі якіх пакупнік бярэ, прачытаўшы на вокладцы толькі яго прозвішча. Ён верыць: у гэтага аўтара дрэнных твораў не бывае. Складаней з тымі аўтарамі, хто яшчэ менш вядомы, хто яшчэ шукае свой шлях у вялікую літаратуру? Вы маеце рацыю, многія кніжкі залежваюцца на паліцах менавіта па прычыне іх якасці, з другога боку — неабходна дапамога выдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў для таго, каб кожная кніжка знайшла свайго чытача. Гэта не значыць, што такія кніжкі трэба даваць у «нагрузку», з чым Дзяржкамвыд рашуча змагаецца. Іх патрэбна больш рэкламаваць: і змястоўнай анатацыяй у тэматычным плане, і цікавай інфармацыяй у перыядычным друку, на радыё, тэлебачанні, і жывым словам ля магазінных стэндаў, і ў пярвічных арганізацыях аматараў кнігі, і г. д. Самакрытычна трэба прызнаць, што ў гэтым напрамку робіцца далёка яшчэ не ўсё. Праўда, добры пачатак ужо зроблены. Гэта «прэм'ера кнігі», у час якой аўтар сустракаецца з чытачамі, сустрэчы пісьменнікаў з пакупнікамі ў кнігарнях, выезды работнікаў кніжных магазінаў на прамысловыя прадпрыемствы і ў арганізацыі, наладжванне кніжных кірмашоў на гарадскіх плошчах і ў парках адпачынку, правядзенне свята паэзіі і многае іншае. Вядома, усе гэтыя шляхі і сродкі трэба выкарыстоўваць, у той жа час неабходна імкнуцца і да новых форм распаўсюджвання кнігі.

**— Ці не здаецца вам, што цяперашняя форма папярэдніх заказаў у многім устарэла? Тыраж кнігі вызначаецца згодна папярэднім заказам, зразумела, у лімітах тыражу. Але ж, будзем шчырымі, многія, у тым ліку, напрыклад, і я, папярэдне беларускую кнігу не заказваюць. Навошта гэта рабіць, калі і так можна спакойна купіць. Кнігагандлёвыя работнікі такіх патэнцыяльных пакупнікоў проста не ўлічваюць. Зачараванае кола атрымліваецца...**

— Не, не здаецца. І думаю, ніякага «зачараванага кола» няма. Чаму? Крыху аб практыцы тыражыравання. Выдавецтву штогод план выпуску літаратуры даводзіцца ў лістах-адбітках. Напрыклад, у гэтым годзе план на лістах-адбітках Дзяржкамвыда складае 655 мільёнаў штук. Мы адпаведна давялі план кожнаму выдавецтву з улікам яго аб'ёмаў. І вось выдавецтва, зыходзячы з аб'ёмаў выдзеленай яму паперы, і плануе, вядома, папярэдне, колькі яму пакінуць у плане выпуску назваў, якім аб'ёмам і адсюль, як вынік, якім тыражом. Паколькі выдавецтва ў вытворчых сувязях з'яўляецца пастаўшчыком у дачыненні гандлёвых арганізацый, яно, без згоды апошніх, не можа запускаць у вытворчасць запланаваныя ім кнігі. А гандлёвыя арганізацыі, каб даць свае заказы на запланаваную выдавецтвам літаратуру, павінны вывучыць попыт насельніцтва. Вось тут і накіроўваюцца планы выпуску літаратуры наступаючага года ў гандлёвыя арганізацыі (планы 1988 года ў красавіку 1987 года былі ўжо ў кніжных магазінах). Гандлёвыя работнікі знаёмяць з гэтымі планамі першнаперш бібіятэкі, а потым шырокія колы пакупнікоў, ці, лепш сказаць, чытачоў, і збіраюць такім чынам папярэднія, або гарантаваныя заказы.

Вы пыталіся, чаму ў магазінах паліцы завалены непатрэбнай літаратурай? Да таго, што я сказаў, можна дадаць яшчэ наступнае: папярэднія заказы і робяцца для таго, каб такой літаратуры было менш, або зусім не было. Прапагандуючы літаратуру, якую яны выпускаюць, выдавецтвы імкнуцца пашырыць кола інтарэсаў сваіх чытачоў. Звярнуць іх увагу да таго ці іншага твора, да новай тэхнікі ці тэхналогіі, да той ці іншай грамадска-палітычнай праблемы. Але ўсё ж тыраж, у канчатковым выніку, будзе вызначацца попытам на тую ці іншую кнігу.

**— Ці мяркуеце выдаваць у перспектыве рэкламны праспект-каталог, анатацыйны, са звесткамі пра аўтара, урыўкамі з твораў, якія выходзяць у выдавецтвах? На Украіне і ў Латвіі так робіцца...**

— Пачатак выдання такіх каталогаў у нас таксама зроблены. Напрыклад, сёлета яго выпусціла выдавецтва «Вышэйшая школа». Абмяркоўваючы на калегіі Дзяржкамвыда пытанне аб паляпшэнні распаўсюджвання беларускай літаратуры, мы і выдавецтву «Мастацкая літаратура» даручылі распрацаваць адпаведны каталог. Вырашана, што такі каталог будзе выходзіць штогод, разам з тэматычным планам.

**— Наспела, відаць, пытанне і аб выданні ў нас газеты накшталт «Кніжнага агляду» («Книжного обозрения»). Такі вопыт таксама ёсць у некаторых саюзных рэспубліках.**

— Сёй-той мяркуе, што з'явіцца вось такое выданне, і ўсе праблемы па таму ці іншаму пытанню будуць зняты. Баюся, што праблема крыху спрашчаецца. Спашлюся хаця б на такі прыклад. Колькі размоў у рэспубліцы вялося аб выданні часопіса «Мастацтва Беларусі»? Гаварылі, што ён неабходны і кожнай бібліятэцы, і кожнай школе, не гаворачы ўжо аб шматлікіх аматарах мастацтва. І вось часопіс пачаў выходзіць, рэдакцыйны калектыў стараецца рабіць яго змястоўным. А тыраж яго — усяго 2,5 тысячы экземпляраў. Прычым індывідуальных падпісчыкаў усяго-наўсяго 174, з іх у Мінску толькі 95.

Што датычыцца спецыяльнага выдання, якое займалася б толькі рэкламай кнігі, то тут, відаць, вы маеце рацыю. Цяпер Упраўленне кніжнага гандлю выпускае «Рэкламны лісток». Выходзіць ён раз у два месяцы. Але ён асвятляе ў асноўным унутраныя пытанні кніжнага гандлю і не выходзіць на шырокае кола пакупнікоў. Думаю, настаў час узняць пытанне аб пераўтварэнні гэтага выдання ў масавую газету з назвай, скажам, «Спадарожнік чытача».

**— Прапаганда кнігі магла б даць больш... Толькі, відаць, трэба яшчэ ўлічваць такі фактар, як псіхалогія пакупніка.**

— Сапраўды, псіхалогія чытача ці пакупніка існуе, і работнікам кніжнага гандлю даводзіцца яе ўлічваць. Думаю, і вам не раз прыходзілася назіраць, як каля кніжнага магазіна на тратуары выстаўляецца столік з кнігамі і ля яго заўсёды тоўпіцца народ. Тыя ж кнігі, што і ў магазіне, але яны як бы наблізіліся да пакупніка і ён не праходзіць міма, бярэ іх. Спрацоўвае псіхалогія: людзі бяруць, а чаму і мне не ўзяць! Можна прывесці і іншы прыклад: кніжка ў магазіне доўгі час ляжыць, не рэалізуецца. І раптам... у кароткі час разышлася. Аказваецца, нехта купіў і прачытаў кніжку, яна яму спадабалася. Расказаў аб ёй сябрам... І зноў спрацавала псіхалогія.

**— І рэклама?**

— Так, і рэклама. Вядома, кнігавыдаўцы і кнігараспаўсюджвальнікі зацікаўлены ў тым, каб кожная кніжка распаўсюджвалася як мага хутчэй. Але не з кожнай кніжкай такое здараецца. Больш таго, ёсць выданні, рэалізацыя якіх мы разлічваем на некалькі год. Напрыклад, энцыклапедычныя выданні, альбомная прадукцыя, слоўнікі. Яны вельмі складаныя і ў падрыхтоўцы, і ў паліграфічным выкананні. Перадрукоўваць іх штогод няма магчымасці, ды і пры невялікіх тыражах кожны том прыносіць выдавецтву страты на дзесяткі тысяч рублёў. Таму такія выданні і друкуюцца павышанымі тыражамі з разлікам іх распаўсюджвання на працягу некалькіх год.

У той жа час, вялікая колькасць кніг разыходзіцца хутка: за тры-шэсць месяцаў. З гэтага можна зрабіць вывад: устанавіць афіцыйны тэрмін, у які рэалізоўваліся ўсе кніжкі, нельга. Хаця трэба сказаць, калі кніжка застаецца на паліцах магазінаў больш за два гады, нас такая акалічнасць пачынае турбаваць.

**— Усе мы, у тым ліку і старшыня Дзяржкамвыда БССР, вялікія прыхільнікі кнігі. Якія б кнігі вы, Міхаіл Іванавіч, хацелі б у бліжэйшы час убачыць на стэндах нашых выдавецтваў і на паліцах кнігарань рэспублікі? Якія перашкоды бачыце вы на шляху «ідэальнай» кнігі да чытача?**

— Наша Савецкая краіна, выконваючы рашэнні XXVII з'езда, уступіла ў новы этап свайго руху наперад — этап паскоранага развіцця народнай гаспадаркі, абнаўлення маральна-палітычнага клімату ў грамадстве, паглыблення сацыялістычнай дэмакратыі. Ідзе перабудова па ўсіх напрамках. І тут, вядома, сваё важкае слова павінна сказаць і літаратура. Савецкі чытач чакае ад яе новых кніг: праўдзівых, захапляючых, прысвечаных надзённым праблемам жыцця грамадства. Мы жывём у такі час, што пісьменнік, калі ён хоча сапраўды служыць свайму народу, мусіць адначасова бачыць і мінулае, і сучаснае, і высвятляць шляхі у будучыню, шлях, па якім народу ісці далей. Добра бачыць шлях наперад — адна з неабходных умоў творчага поспеху. Кніг, створаных у такім плане, і хацелася б бачыць больш. Думаю, што ў дадатак да існуючых літаратурных форм могуць з'явіцца і новыя: кніжкі-дакументы, кніжкі-дыялогі, кніжкі-інтэрв'ю і г.д.

Вы пытаецеся, што можа стрымліваць прыход неабходнай чытачу кнігі? Яўных перашкод бачыцца бы і няма. Выдаўцы гатовы даць такой кніжцы зялёную вуліцу. Але спачатку яе патрэбна напісаць. А гэта ўжо справа нашых аўтараў: пісьменнікаў, вучоных, таленавітых практыкаў. Не сумняваюся, што такія кніжкі ўжо пішуцца, што яны доўга чакаць сябе не прымусяць.

Гутарыў
**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ЗНАЙШОЎ СВАЁ ПРЫЗВАННЕ



«Аўтографы на Піншчыне» — так называўся вечар, прысвечаны 20-годдзю творчай дзейнасці акцёра Пінскага народнага драматычнага тэатра, саліста гарадскога Дома культуры, мастака, лаўрэата першага Усесаюзнага фестывалю самадзейнай мастацкай творчасці А. Белавуса.

Першы поспех да Аляксандра Міхайлавіча прыйшоў, калі ён служыў у Савецкай Арміі. Ротны запявала нечакана для саслужыўцаў заняў першае месца на палкавым аглядзе мастацкай самадзейнасці. Разам з граматай за сумленную службу камандзір палка ўручыў яму і ганаровы дыплом за высокае выканаўчае майстэрства і актыўны ўдзел ва Усесаюзным фестывалі самадзейнага мастацтва, прысвечаным 50-годдзю Вялікага Кастрычніка.

З таго часу і вядзе адлік А. Белавус сваёй творчай дзейнасці. Звольніўшыся ў запас, ён прыйшоў працаваць у Пінскі гарадскі Дом культуры. І вырашыў сябе паспрабаваць у драматычным жанры. Першая роля ў спектаклі «Якаў Бацюр» была сыграна выдатна. Малады акцёр атрымаў пастаянную прапіску ў народным драматычным тэатры.

Штогод А. Белавус удзельнічаў у двух спектаклях, значыць — дзве новыя ролі. Ён іграў капітана дальняга плавання (камедыя Габора «Рамонак без пялёсткаў») і сталяра Андрэя (спектакль паводле апавядання Шукшына «Характары»). Але галоўнай у яго творчасці была і ёсць тэма вайны. Гэта афіцэр Савецкай Арміі Сяргей Раманаў у народнай драме «Эшалон жыцця» па п'есе драматурга Цярэшкіна, салдат Васіль Ермалаеў у драме Сегеля «Я заўсёды ўсміхаюся», старшына Кузаўкоў у спектаклі Яжова «Салаўіная ноч» і іншыя.

— Ваенная тэма стала для мяне любімай таму, што тыя страшныя дні вайны я заўсёды перажываю са сваім героем, — гаворыць А. Белавус. — Іграю такія ролі з асаблівым стараннем і праўдзівасцю, хачу, каб вобраз салдата, абаронцы Радзімы, усёй душой успрымаўся гледачом, асабліва моладдзю. Такія вобразы мне дарагія і таму, што я — равеснік Вялікай Перамогі.

За дваццаць гадоў працы ў народным драматычным тэатры А. Белавус сыграў 35 галоўных роляў у розных спектаклях. І трэба адзначыць, што кожная сыграная роля — гэта непаўторны характар героя, гэта пошук і знаходка і, нарэшце, поспех, пра што сведчаць шматлікія ўзнагароды. Сярод іх дыплом Міністэрства культуры БССР і Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры за вялікую работу па развіцці самадзейнага тэатральнага мастацтва, актыўны ўдзел у культурным абслугоўванні насельніцтва і творчыя поспехі.

У Пінску няма такога прадпрыемства, дзе б не былі знаёмы з творчасцю А. Белавуса. Яго цёпла прымаў не толькі пінскі глядач, але глядач і многіх іншых населеных пунктаў Беларусі.

А як жа з песняй? Бо менавіта ж з ёй звязаны першы поспех Аляксандра Міхайлавіча. Не, з песняй ён не расстаецца і цяпер. Ніводнае масавае мерапрыемства, якое праходзіць у горадзе, не абыходзіцца без песень у выкананні А. Белавуса. Як святую рэліквію захоўвае ён дыплом пераможцы Усесаюзнага конкурсу на лепшае выкананне савецкай патрыятычнай песні, якім узнагароджаны ВЦСПС, Міністэрствам культуры СССР і ЦК ВЛКСМ за актыўны ўдзел у прапагандзе савецкай патрыятычнай песні і высокае выканаўчае майстэрства.

Паспяхова выступаў А. Белавус у 1969 годзе ў Маскоўскім парку культуры і адпачынку імя Ф. Э. Дзяржынскага. І там атрымаў заслужаную ўзнагароду.

Найбольшы поспех на долю Аляксандра Міхайлавіча выпаў у дні правядзення першага Усесаюзнага фестывалю самадзейнай мастацкай творчасці працоўных. За высокае выканаўчае майстэрства ён узнагароджаны дыпломам другой ступені ўсесаюзнага аргкамітэта.

Мне не раз даводзілася выязджаць з Аляксандрам Белавусам на прадпрыемствы, у калгасы і саўгасы, дзе ён выступаў з канцэртамі. І было вельмі прыемна бачыць, як цёпла і сардэчна сустракалі яго гледачы. Гэта вынік таго, што да кожнага канцэрта ён рыхтуецца сур'ёзна і засяроджана.

А да свайго творчага вечара ён рыхтаваўся з асаблівай стараннасцю. І вечар атрымаўся. Гледачы ўбачылі фрагменты сцэн са спектакляў, у якіх заняты А. Белавус, праслухалі ўрыўкі з літаратурна-вакальнай кампазіцыі, песні савецкіх кампазітараў.

Аўтографы на Піншчыне... Адзін з іх пакінуў Аляксандр Белавус.

**М. САЎЧАНКА,**
**карэспандэнт-арганізатар Пінскага радыёвяшчання.**

**НАШ КАЛЯНДАР**

# ЦЯРНІСТЫ ШЛЯХ ПАЭТА

**Уладзімір КАЗБЯРУК**



СПОЎНІЛАСЯ 100 ГАДОЎ з дня нараджэння Алеся Гаруна — пісьменніка незвычайна трагічнага лёсу. Усяго 33 гады пражыў ён на свеце. З іх 10 гадоў адабралі ў яго турма, катарга, пасяленне ў Сібіры... А пасля Сібіры заставалася ў яго менш чым 3 гады пакутлівага існавання чалавека, хворага на сухоты, — ад верасня 1917 г., калі ён, вызвалены Лютаўскай рэвалюцыяй, вярнуўся ў Мінск, да ліпеня 1920 г., калі абарвалася яго жыццё.

Нарадзіўся Алесь Гарун (Аляксандр Уладзіміравіч Прушынскі) 11 сакавіка 1887 г. у сям'і рамесніка ў Мінску. Але невядома, дзе ён больш часу правадзіў у дзяцінстве: ці ў родным горадзе, у якім ён адчуваў сябе чужым, ці ў вёсцы каля Баранавіч, адкуль паходзілі яго бацькі. Пісаў жа ён пазней:

**Не люблю я места—страх!**
**Што ні крок — высокі гмах,**
**Што ні мур — то цяжкі дах,**
**І бязлюдна на людзях.**

Затое ж вёска выклікала ў яго зусім іншыя пачуцці — шырыні, раздолля, унутранай свабоды:

**А на вёсцы — там прастор,**
**А за вёскай вечны бор,**
**А ў бары тым птушак хор,**
**Міліёны ноччу зор.**

Адукацыя ў Алеся Гаруна была небагатая. Яму, як і Янку Купалу, «мудрасці кніжнай не даў бог пазнаці». Закончыў ён усяго толькі рамесніцкае вучылішча (1902 г.), пасля якога працаваў у сталярных майстэрнях і на мэблевай фабрыцы ў Мінску.

У 1904 г. ён звязаў свой лёс з партыяй эсэраў, а 4 сакавіка 1907 г. ноччу яго арыштавалі ў падпольнай друкарні на вуліцы Шырокай у Мінску. Друкавалася там адозва пад назвай «Ко всем трудящимся». У абвінаваўчым акце яе змест перадаецца наступнымі словамі:

**«...Надо... бороться не на живот, а на смерть, ибо без борьбы нет свободы и счастья. Цари деспоты, владельцы земель, имущества и денежных капиталов всегда будут ставить преграды на пути к нашему освобождению, потому надо ко всему быть готовыми. Борьба должна быть кровавой, упорной, и лишь через трупы врагов вступим мы на путь ясной жизни, жизни свободной и счастливой, другого выхода нет. Борьба должна вестись не за мелкие улучшения, а за социализм, который один только и может дать людям счастье и свободу».**

Ці магло царскае правасуддзе дараваць такое? Справай Аляксандра Прушынскага (які першапачаткова спрабаваў называць сябе пскоўскім мешчанінам Пятром Івановым) займаўся вядомы Кабека (той самы, праз рукі якога прайшоў пазней Якуб Колас). Пасля зласвеснай віленскай Лукішскай турмы Алесь Гарун трапіў у Сібір на катаргу, якая з цягам часу была заменена пасяленнем. Так вось закончыліся дзяцінства і юнацтва будучага паэта, і ў 20-гадовым узросце ён быў вырваны з роднага асяроддзя і адпраўлены ў ланцугах (у «бранзалетах», як сам назаве іх у адным з пазнейшых вершаў) у неабдымныя прасторы Сібіры на пакуты і здзек.

Але і ў тых умовах, якія так лёгка маглі загубіць, зламаць маральна, скалечыць фізічна (а гэта з цягам часу з Алесем Гаруном і здарылася, бо ў Сібіры ён захварэў на сухоты), ён знайшоў у сабе сілы і волю для барацьбы — за жыццё, за захаванне чалавечай годнасці. Там, на чужыне, ён павінен быў і веды набываць, і засвойваць азы мастацкай творчасці, а больш правільна—пракладваць у ёй зусім новыя, самастойныя шляхі, бо ні на кога ён не быў падобны, нікога не пераймаў, нічога ў творчасці не запазычваў (не быў нічыім «падгалоскам», як сказаў пра яго Максім Багдановіч). А яшчэ давodзілася паэту — без падручнікаў і граматык, нарматыўных і тлумачальных слоўнікаў, без бібліятэк і роднага асяроддзя— не толькі засвойваць, але і выпрацоўваць для сябе правілы і нормы роднай мовы з яе стылявымі і вобразнымі магчымасцямі, з выкарыстаннем лексічных багаццяў, якія зберагла яго маладая памяць. Не трэба забываць, што гэта быў перыяд, калі правапіс і літаратурныя нормы беларускай мовы яшчэ толькі складваліся.

Нягледзячы на ўсе неспрыяльныя акалічнасці, Алесь Гарун пісаў у Сібіры вершы, пасылаў іх у «Нашу Ніву». У 1914 годзе, працуючы на Лене вадалівам на баржы, ён падрыхтаваў паэтычны зборнік «Матчын дар», які пабачыў свет толькі ў 1918 годзе.

Здавалася б, ніякай прасветліны ў жыцці. Бацькоўскі край — за многія-многія тысячы вёрст. Кожны крок Алеся Гаруна быў пад пільным наглядам і кантролем. Законы жорстка абмяжоўвалі любое яго права, любое жаданне. Але ні правасуддзе, ні турэмныя ці адміністрацыйныя ўлады думку і годнасць чалавечую яго скаваць не маглі. І аказаліся бяссільнымі вытравіць з душы паэта любоў да свабоды, да роднай зямлі, да веры ў свой народ, у яго светлую будучыню:

**Ты паўстанеш, працавіты,**
**Гаратнічы, невымоўны,**
**Шчасця, долі прагавіты,**
**Мой сланечны, мой чароўны.**
**Будзе час, пабачаць сведкі,**
**Хоць не мы, дык нашы дзеткі.**

Кожны верш паэта, кожны яго радок, напісаны ў Сібіры, — гэта і водгулле пакуты, але і сімвал веры, споведзь і скарга выгнанніка і сведчанне нязломнай, непахіснай вытрымкі. І разам з тым — шчымлівае, неадольнае пачуццё духоўнай сувязі з роднай зямлёй, з усім тым, што на ёй адбываецца, а галоўнае — з тымі пераменамі, якія там наспяваюць, набіраюць сілы, з'яўляюцца вестунамі адраджэння дарагой сэрцу Беларусі.

**Што мне багацце? Без грошай, без золата**
**Быў бы магнат я, кароль, багатыр**
**Там, дзе пад націскам роднага молата**
**Жыцце куецца углыб і ушыр.**

**Жыцце куецца, і сонца ўздымаецца,**
**Светла праменне ліецць з гарыні,**
**З доўгага сну, дзе народ прачынаецца,**
**Побыту шчаснага свецяць агні.**

Багата ў паэта песень жальбы, сумных настрояў, плачу. Але ці можам мы яго дакараць за гэта? Больш мы павінны здзіўляцца яго вытрымцы. Ведаючы добра, што магло б з ім здарыцца ў тых умовах, ён больш за ўсё баяўся магчымасці парваць духоўныя сувязі з роднай краінай:

**Страшна мне гэта, і ўсё ж не адзінае**
**Так наваліла, гняце ў глыбіне, —**
**Горшая мука ўтрапляець, што сынам я**
**Быць перастану сваёй старане.**

У душы паэта гарыць пачуццё болю з-за таго, што ён не можа зрабіць для сваёй зямлі і свайго народа ўсяго, што хацеў бы, што трэба было б. Ён ні на хвіліну не дапускае думкі аб тым, што мог бы шукаць у жыцці лепшага, больш спакойнага лёсу. І ён меў права сказаць пра сябе:

**Біўся з няпраўдай, з бядой і гаротаю,**
**Сэрца ў попел няшчадна спаліў,**
**Сілы ўсе страціў у бойцы з цямнотаю,**
**Кроў, не рахуючы, кроў сваю ліў!**

Кожны радок паэта быццам бы напісаны ахвярнай крывёю, выпраменьвае нейкую асаблівую энергію і сілу.

У завуаліраванай форме, але ўсё ж такі дастаткова выразна, празрыста, паэт паказвае, што ахвяры лірычнага героя і пакуты, якія выпалі на яго долю, не могуць быць дарэмнымі. Гэты аптымістычны вывад, падмацаваны заклікам да дзеяння, да самаахвяравання, зноў вяртаецца ва ўрачыста-патэтычным, іншасказальным вершы «Навука». Настаўнік, звяртаючыся да вучня (называючы яго сынам), усёй сілай пераканання заклікае яго ісці наперад, па абранаму шляху, не зважаючы ні на перашкоды, ні на пакуты:

**І вось, калі табе трываць не хопіць змогі,**
**І цяжкім здасца крыж табе, і доля вельмі злой,**
**Не трэба, сын, шукаць лягчэйшае дарогі, —**
**Ідзі старой.**

**І мусіць час настаць:**
**убачыш свет праменны,—**
**Ідзець ўладар адвечны твой, яго спаткай здалёк,**
**Уздзеўшы бітвы меч на свой паяс раменны.**
**І скажа Рок:**
**Ідзі хутчэй, слуга! Спавіты свет маркотай,**
**У ім крыўды легіён забраў зямлі апошнюю чвэрць,**
**Нясі ж свой праўдзе меч — Мой сын! Ідзі з ахвотай**
**На чэсць і смерць.**

Ёсць у Алеся Гаруна алегарычныя творы з глыбокім філасофскім роздумам над кардынальнымі пытаннямі чалавечага быцця і грамадскіх працэсаў. Лірычнаму герою верша «Nokturno» Нядоля адкрывае вочы на глабальныя заканамернасці рэчаіснасці: на бессмяротнасць жыцця, на непазбежнасць абнаўлення яго форм, на вечны, нястрымны рух у прыродзе і грамадстве. Калі ручэй на сваім шляху і схаваецца недзе ў зямлю, дык ён усё роўна выплыве наверх і разальецца шырокай ракой; хоць лес восенню і замірае, але вясной ён заўсёды адраджаецца. Так і пакуты людзей падрыхтоўваюць непазбежныя перамены і абнаўленне жыцця грамадства.

**І ты, о, любы мой! Як лес зімовы,**
**Заснуў, ляжыш, не можучы устаць.**
**Але наступіць дзень, вясёлы, пекны, новы,**
**І радасць вольнасці павінна завітаць.**

Па сваіх матывах і тэматыцы паэзія Алеся Гаруна блізкая да паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа. У яго такое ж неадольнае жаданне лепшай долі для народа, такая ж непрымірымасць да несправядлівасці, гатоўнасць ахвяраваць сабой для шчасця бацькоўскай зямлі, для людзей. І толькі больш абвострана сум па радзіме, па волі, якой ён быў пазбаўлены столькі гадоў. Адсюль і перавага ў яго песень жальбы.

**Волі, думак, шчасця, смеху**
**Дайце мне! Хоць паказыце!..**
**Але не... Мне на пацеху**
**Вока страшнага нябыцця.**

. . . . . . . . . .

**Сэрца плача, і я плачу,**
**Плачу з сэрцам галасліва...**

У Алеся Гаруна такая энергія і дынамічнасць паэтычнага радка, страснасць пачуццяў, багацце і разнастайнасць рытму, рыфмаў, форм мастацкай вобразнасці, нечаканых паваротаў думкі, што ён у гэтых адносінах, як ніхто, бадай, у беларускай паэзіі, мог спаборнічаць з Янкам Купалам. У кожным радку пульсуе жывая думка, кіпіць пачуццё. У хвіліны натхнення ён вырываецца з няволі, «яснай зоркай» нясе ў родную вёску кліч да змагання за волю і шчасце:

**— Гэй, хто ёсць тут! Люд галодны,**
**Люд пакутны! Да мяне!**
**Станьма, брацце, у шыхт паходны —**
**Наша гора праміне.**

**Досыць нам з нядолі віці**
**Ценкі жыцця свайго пас.**
**Слухай, люд: прынёс я віці,**
**Хто за мною, брацце? — Час!**

**Устануць, рушаць: «Проч з дарогі!**
**Хто нам хоча заступіць?**
**Мы пайшлі, мы люд убогі,**
**Усё узяць, ці ўсё згубіць»...**

Лютаўская рэвалюцыя паклала пачатак новаму, заключнаму этапу ў жыцці Алеся Гаруна. Ён выбіраецца дэпутатам Савета Ленскай золатапрамысловай акругі, потым прыбывае ў Маскву, адкуль у верасні 1917 года вяртаецца ў Мінск. Тут ён у складаных умовах нямецкай акупацыі актыўна ўключаецца ў пісьменніцкую і грамадскую дзейнасць.

Але ці так лёгка было іх знайсці? Ці проста было належным чынам зразумець усё, што тады адбывалася вакол? Аддзяліць дэмагогію, што часта прыкрывалася сацыялістычнай фразеалогіяй, ад сапраўды рэвалюцыйных ідэй навуковага сацыялізму? Разабрацца ў тым, дзе былі сапраўдныя сябры народа, а дзе — звычайныя палітыканы-кар'ерысты? Сёння мы вельмі добра ведаем, адкуль магло прыйсці і сапраўды прыйшло вызваленне. Мы заўсёды багаты «заднім розумам». А тады?

Не так ужо і багата захавалася вестак аб дзейнасці А. Гаруна ў той перыяд. Быў ён звязаны з тагачаснымі нацыяналістычнымі арганізацыямі. Але гэта ён у 1918 годзе ў адным са сваіх выступленняў сказаў: «Шмат гаварылася тутака аб рэвалюцыі, аб заслугах блізкога нам расейскага пралетарыяту, аб патрэбе паглыбляць рэвалюцыю. Я аддаю ёй сваю пахвалу. Я сам рэвалюцыянер, але аб адным забыліся вы: рэвалюцыі ў нас на Беларусі няма...» Так было сказана ў час нямецкай акупацыі.

Ідэйна-палітычныя погляды таго складанага, багатага пераломнымі падзеямі перыяду, найбольш выразна, мабыць, былі сфармуляваны ў артыкуле «Одгукі», апублікаваным 7 студзеня 1918 года. Тут выявілася ўся супярэчнасць ідэйных пазіцый паэта. З артыкула мы бачым, што тады яшчэ ён не меў ніякага рэальнага ўяўлення пра сутнасць і значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі, зусім не ведаў і не падазраваў, чым сацыялістычная Савецкая Расія адрознівалася ад Расіі царскай. Словы аб «заслугах блізкога нам расейскага пралетарыяту» будуць сказаны пазней, а пакуль што, на рубяжы 1917 і 1918 гадоў, ён меў уяўленне толькі пра тую, ранейшую Расію, у якой было ўзаконена палітычнае і культурнае бяспраўе нацыянальных ускраін. Ён паказаў, што не ведае палітыкі маладой Рэспублікі Саветаў па двух кардынальных пытаннях, якія заўсёды мелі для яго самога жыццёва важнае, рашаючае значэнне: па нацыянальным і зямельным. Але тады ўжо разумеў, вельмі добра разумеў, якую палітыку пачыналі ажыццяўляць тыя, хто накіроўваў на ўсход польскія легіёны пад камандаваннем Пілсудскага. Іменна ў іх А. Прушынскі бачыў галоўную небяспеку, якая пагражала Беларусі ў той перыяд. Звяртаючыся да тых, хто ў друку ўсімі сіламі спрабаваў даказаць неабходнасць аб'яднання беларускіх зямель з будучай Польшчай (артыкул «Одгукі» з'явіўся ў друку за 10 месяцаў да афіцыйнага абвяшчэння незалежнасці Польшчы), А. Прушынскі з асаблівай сілай пераканання папярэджваў і перасцерагаў:

**«Зразумейце, што калі слова «прыгоншчык» зрабілася аднaзначным слову «паляк», то тут вашая віна перад польскім народам... Як вольны з вольным, роўны з роўным, пойдзе ён, працоўны беларускі народ, поруч з другімі народамі, а ў тым ліку і с польскім, але не з вамі, прыхваснямі польснага імперыялізму, хоць бы вы былі і тутэйшымі здраднікамі і перакінчыкамі, забыўшымі бацьку і мацяр сваю.**

**Пара зразумець, што вашага «стану пасядання» (маёмасных інтарэсаў. — У. К.) на Беларусі німа і ні можа быць. Гэты стан пасядання трымаўся на зямельнай уласнасці, каторая павінна перайсці да яе праўдзівага, адвечнага гаспадара — «хлопа бялорускего»...**

**...Вы запэўняеце, што будзеце бараніць свае землі... Ось гэта і падае нам думку, што вашыя легіёны... трымаюцца на нашых Беларускіх абшарах дзеля акупацыі... Вы дамагаецеся большай спаяльнасці Беларусі с «Польскім краем», —**

**а ці запыталі вы ў народу беларускага, па чом абышлася яму гэтая спаяльнасць?.. А калі вам, калі «обывательству» (памешчыкам. — У. К.) вашаму так жадаецца «святоі спаяльнасці», дык можаце саўсім зліцца з кім ахвота вашая будзе, але зямельку нашую, каторую вы с такім запалам збіраецеся бараніць (ад каго і якім спосабам?), мусіце пакінуць народу. Вы пакепліваеце з нас, што мы так заняты зямельным пытаннем. Так, — бо зямельнае пытанне — частка нашага нацыянальнага пытання... Дэлегацыя «обывательства Літвы і Беларусі» ў Берлін аб прылучэнні Літвы і Беларусі да Польшчы — даюць ясны адказ, дзеля якой мэты арганізуеце вы на нашай зямлі польскія легіоны.**

**Але ні будзе гэтага!..»**

Пра Алеся Гаруна калісьці пісалі неаднаразова. Але пра гэты артыкул нідзе не сказана ні слова. Затое ж усе крыніцы адна ўслед за адной паўтараюць іншую падзею з біяграфіі паэта. Калі ў 1919 годзе тыя «легіоны» ўсё ж нахлынулі на беларускую зямлю, а следам за імі пацягнуліся плоймай польскія памешчыкі, якія адразу ж узяліся наводзіць свае парадкі (гэта значыць, вяртаць свой «стан пасядання»), збіраючыся заставацца навек, А. Прушынскі ў верасні вітаў у Мінску Пілсудскага ад імя беларускай грамадскасці. А неўзабаве загадам самога начальніка Польскай Рэчы Паспалітай быў прызначаны членам так званай Беларускай вайсковай камісіі (БВК). Гэта давала — як быццам надзейную, неабвержную — падставу абвяшчаць паэта ворагам сацыялістычнай рэвалюцыі. Як-ніяк Беларуская вайсковая камісія павінна была арганізаваць беларускую антысавецкую армію. Павінна была... Але ці стварыла?

Вось тут перад намі — адна з заблытаных старонак гісторыі, адна з яе загадак. Гісторыя камісіі заслугоўвае таго, каб зацікавіцца ёю больш уважліва, і перад намі адкрыюцца зусім нечаканыя падзеі і з'явы, звязаныя якраз з імем Алеся Гаруна. Вось якія факты лёгка можна ўстанавіць па нацыяналістычнаму друку той пары і па архіўных матэрыялах.

У самым канцы ліпеня 1919 года Пілсудскі асабіста даў згоду на стварэнне Беларускай вайсковай камісіі, якую ўзначаліў П. Алексюк. Шмат пра яе гаварылі і пісалі тады, яе дзейнасцю зацікавіліся імперыялістычныя дзяржавы. Прадстаўнікі так званай Беларускай народнай рэспублікі (БНР) нават падпісалі ў Парыжы пагадненне аб набыцці амерыканскага ўзбраення на суму 400 мільёнаў долараў (па сённяшняму курсу — гэта мільярды долараў). Пра грошы нікому турбавацца не трэба было, бо Антанта гатова была выдзеліць любую суму на зброю для антысавецкіх войск. Што ж датычыць самой камісіі, дык яна стварыла розныя падкамісіі, зацвердзіла вярбоўшчыкаў, пісараў. Па штатнаму раскладу набіралася каля сотні чалавек. Цэлае міністэрства.

Перад камісіяй стаяла, здавалася б, зусім нескладаная задача: аб'яднаць сілы ўсёй контррэвалюцыі пад адзіным сцягам антысаветызму. І людзей хапала б, і зброі, і падбухторшчыкаў. Аднак жа...

Шмат у нас пісалася пра тое, якога размаху дасягнула контррэвалюцыя на тэрыторыі Беларусі. Толькі ў адным Слуцку на працягу кароткага часу была створана антысавецкая банда, што налічвала 4000 чалавек. Вядомы генерал Булак-Балаховіч за межамі Беларусі і Літвы (там, куды не пашыраліся паўнамоцтвы БВК) стварыў так званае «беларускае войска» (з кавалерыяй і артылерыяй) у колькасці 4000 чалавек. У розных месцах дзейнічалі адасобленыя менш шматлікія групы. Так што былі ўсе ўмовы для стварэння ў Беларусі цэлай антысавецкай арміі.

А чаго дасягнула Беларуская вайсковая камісія, якая актыўна публікавала заклікі, адозвы, праводзіла агітацыйную работу? У студзені 1920 года беларускі штомесячнік, які выдаваўся ў Коўні пад назвай «Часопісь», з лёгкай іроніяй паведамляў:

**«Расхвалены праект арганізацыі беларускіх частак у польскай арміі, атрымаўшы высокую згоду Начальніка Рэчы Польскай Паспалітай і распаўсюджаны яшчэ ў восень 1919 году, да студзеня 1920 году не даў ні воднага салдата, ні воднага беларускага штыка».**

Становішча не змянілася і да лета 1920 года. Вось з якім адчаем скардзілася тагачасная нацыяналістычная газета «Незалежная думка» 8 чэрвеня 1920 года:

**«Ужэ блізка каля году, як стварылася так званая «Беларуская вайсковая камісія», існуючая ў Мінску. Мэтай яе было і ёсць арганізаваць беларускае войска, каторае стаяла б на варце абароны бацькаўшчыны ад ворагаў. Доўга чакала беларускае грамадзянства хоць якіх-небудзь рэзультатаў ад працы камісіі і не дачакалася. Радужныя надзеі беларускіх незалежніцкіх кругоў патроху паблеклі і змяніліся на чорную безнадзейнасць. Цяпер мала хто верыць, што з вайсковай беларускай справы будзе пры сучасных палітычных варунках якая-небудзь карысць...»**

У артыкуле разглядаюцца і прычыны такога становішча. Адной з іх называюцца непрыхільныя адносіны польскіх правых сіл, у асаблівасці так званай эндэцыі («нацыянальнай дэмакратыі») да беларусаў.

**«Другая прычына, перашкаджаючая фарміраванню беларускага войска, — падкрэсліваецца далей у артыкуле, — ляжыць у самым напрамку працы павадыроў Беларускай вайсковай камісіі... Камісія прасявае праз вузкае сіта розных «эвідэнцыйна - кваліфікацыйных» камісій кожнага, жадаючага паступіць у беларускае войска, і рэдка хто з гэтага сіта высяваецца. Большасць, пры тым аграмадная, як непатрэбныя высеўкі, выкідваецца з сіта на сметнік. Дзякуючы гэтаму, у шырокім беларускім грамадзянстве даўно ўжо ведама, што ў беларускае войска цяжэй папасці, як у рай Магамета, што ў беларускае войска, асабліва ў беларускія афіцэры, папасці беларусу такім, якім ён ёсць, проста немагчыма... Разумеецца, што ад такой працы вайсковай камісіі нічога добрага чакаць не можна. Па ўсяму відаць, што ў вайсковай камісіі сядзяць людзі, кірунак працы каторых не адпавядае патрэбам і настрою беларускага народу... Калі ўсё застанецца па-старому, то войска беларускага як не было, так і не будзе...»**

Дзейнасць камісіі ніяк не давала спакою самазваным прадстаўнікам «незалежніцкіх кругоў». Вось яшчэ чым абуралася тая ж самая газета «Незалежная думка» ў тым жа нумары ад 8 чэрвеня 1920 года:

**«Апошнімі днямі, калі бальшавікі неспадзеваным выпадам з-пад Полацка занялі Глыбокае і іншыя мясцовасці, не зусім далёкія ад Міншчыны, Беларуская вайсковая камісія выпусціла некалькі адозваў да «беларусаў», «сялян» і «братоў-беларусаў» з прызывам запісвацца ахвотнікамі ў беларускае войска... Паміж іншымі словамі адозваў звяртаюць на сябе ўвагу словы да «сялян, братоў-беларусаў»:**

**«Браты Сяляне! У нас, на Беларусі, досыць зямлі і памешчыцкай і нашай, каб здаволіць ёю ўсіх нас тутэйшых людзей. Нам трэба толькі наладзіць парадак... Мы напярэдадні аб'яўлення незалежнасці нашай Бацькаўшчыны, дзе мы, усе тутэйшыя людзі, будзем лічыць сябе гаспадарамі сваёй роднай старонкі».**

Адна думка аб перадзеле памешчыцкіх маёнткаў выклікае ў тых, хто пісаў і друкаваў карэспандэнцыю, святы гнеў. Не менш абурыла іх і фраза: «Мы напярэдадні аб'яўлення незалежнасці нашай бацькаўшчыны». Яны проста дзіву даюцца: «Здаецца, што каму-каму, а беларускай вайсковай камісіі трэба было б ведаць, што незалежнасць Беларусі абвешчана Радай Беларускай народнай рэспублікі яшчэ 25 сакавіка 1918 г.».

Тут якраз і напрошваецца пытанне: пра якое блізкае вызваленне бацькаўшчыны і вырашэнне зямельнага пытання з улікам наяўнасці памешчыцкіх маёнткаў магла ісці гутарка ў перыяд пераможнага наступлення Чырвонай Арміі?

Але больш сур'ёзнае пытанне да гэтага часу так і не было пастаўлена: чаму ўсё ж такі камісія, якая павінна была стварыць цэлае войска і мела для гэтага ўсе магчымасці, людскія і матэрыяльныя рэсурсы, перад самым вызваленнем Мінска сфарміравала толькі адну роту, якую адправіла не на фронт, а на курсы беларусазнаўства? Уся гэтая гісторыя тым больш загадкавая, што камісію ўзначальваў чалавек, які верай і праўдай служыў акупантам (а ў яго ж былі і аднадумцы).

Тут што ні крок — то нейкія супярэчнасці, не вяжуцца канцы з канцамі. І задача даследчыкаў — разблытаць гэты вузел. «Згодзен, што забытых імён, белых плям ні ў гісторыі, ні ў літаратуры не павінна быць, — сказаў М. С. Гарбачоў на сустрэчы ў Крамлі.— Інакш гэта не гісторыя, не літаратура, а штучныя, кан'юнктурныя канструкцыі». А тут суцэльная белая пляма. Дык што ўсё ж адбывалася?

Святло на гэтае пытанне пралліваюць архіўныя матэрыялы. Дзейнасцю БВК (і ўсіх беларускіх арганізацый) зацікавілася разведка польскага генштаба. І ў падрыхтаваным ёю дакуменце зафіксавана, што восенню 1919 года ў Смаленску паміж прадстаўнікамі беларускіх эсэраў і бальшавікамі было заключана пагадненне аб сумеснай барацьбе супраць белапольскіх акупантаў. У адпаведнасці з пагадненнем беларускія дзеячы, як адзначаецца ў дакуменце, павінны былі ўзяць пад свой кантроль «Беларускую вайсковую камісію». На працягу кароткага тэрміну ім удалося ўвесці ў праўленне камісіі сваіх людзей, такіх, як Прушынскі, Рак-Міхайлоўскі. Выкарыстоўваючы свой уплыў, не падпускалі яны да беларускага войска афіцэраў, пра якіх ведалі, што яны з'яўляюцца ворагамі бальшавікоў. Не прымалі таксама былых афіцэраў армій Карнілава, Дутава, Калчака або Юдзеніча. У той жа час ахвотна прымалі і вербавалі былых афіцэраў і салдат Чырвонай Арміі.

У дакуменце аддзела разведкі польскага генштаба ясна сказана, з якой мэтай А. Прушынскі пайшоў у БВК. А па іншых крыніцах мы можам выразна бачыць вынікі дзейнасці камісіі. Але ёсць і дадатковыя звесткі аб ідэйных пазіцыях А. Гаруна гэтага перыяду. У той час, калі антыбальшавіцкая агітацыя дасягнула небывалых маштабаў, у А. Гаруна мы не знойдзем ніводнага антысавецкага артыкула і мастацкага твора, хоць у друку выступаў ён часта. Затое ж у 1919 годзе ён змясціў свой верш у зборніку «Дзень Чырвонай Арміі» з такім характэрным заклікам:

**Мусім народ абудзіці,**
**Голасна мусім пазваць:**
**Гэй, хто работнік? Хадзіце**
**Новы ўсім лад будаваць!**
**Будуць для ўсіх там палацы,**
**Стане на ўсіх там цяпла,**
**У панстве братэрства і працы,**
**Вольнасці, хлеба й святла.**

У архівах захаваліся копіі вернападданніцкіх тэлеграм кіраўнікоў БВК, адрасаваных Пілсудскаму. Подпісаў А. Прушынскага пад імі няма. Дык чаму ж ён у верасні 1919 года звярнуўся да начальніка легіёнаў з прывітальнай прамовай?

Тлумачэнне можа быць толькі адно: А. Гаруну трэба было стаць членам БВК. Склад яе зацвярджаўся асабіста Пілсудскім. І кожны прэтэндэнт павінен быў заваяваць давер і яго самога і яго акружэння. Для А. Гаруна як аўтара артыкула «Одгукі» гэта была асабліва складаная задача. І тым не менш мэта была дасягнута, ён увайшоў у склад камісіі. Пасля гэтага ён ужо нідзе, ніводным словам не заікнуўся аб падтрымцы акупантаў.

У апошнія гады жыцця, будучы цяжка хворы, А. Гарун працягваў напружаную творчую дзейнасць, пісаў вершы, апавяданні. Перад смерцю паспеў яшчэ выдаць зборнік драматычных твораў для дзяцей «Жывыя казкі».

У перыяд грамадзянскай вайны і акупацыі, ва ўмовах падполля, ён не меў магчымасці адкрыта пра ўсё пісаць ці гаварыць. А пасля вайны ён не паспеў ужо сказаць слова ў сваё апраўданне. Яго на насілках вынеслі ў санітарны цягнік і вывезлі ў Кракаў, дзе ён памёр у ліпені 1920 года.

Не ведаючы твораў Алеся Гаруна, мы сёння маем недаравальна збедненае ўяўленне аб літаратурным працэсе пачатку XX стагоддзя. Яны ніколькі не страцілі свайго значэння і для сённяшняга чытача, бо ўздзейнічаюць на яго сваёй непаўторнай мастацкай формай, вобразнай сістэмай, сваім высока маральным, а таксама грамадзянскім і патрыятычным пафасам. Яны па праву павінны заняць месца поруч з творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.

**Алесь ГАРУН**

# З АСТРОЖНЫХ КАРТАК

## *Яму...*

**...Любіла я без меры,**
**Цябе, о любы мой, каханы мой, ядыны!**
**І пломень той кахання не пагас, —**
**У вясенні кожны дзень, як зацвітуць язміны,**
**Ледзь спусціцца з-пад неба сумерк шэры,**
**Я йду у наш садок і там праводжу час.**

**Праходжу сцежкамі, заросшымі травою,**
**Каторымі даўней хадзілі мы с табою...**

**Хаджу адна па іх, — а кожан кусцік рожы,**
**І дрэўца кожнае, пахучыя язміны,**
**І ўсё, што тут садзіла я сама,**
**Далёкі, любы мой, аплаканы, ядыны!**
**На болесць мне адно варожа:**
**Яго няма, няма!..**

## *Ёй*

**Сягоння ліст твой я ўзяў ў канторы, дарагая,**
**А з ім бязглуздую уразу атрымаў,**
**Бо той жандар, што ўсіх лісты чытае,**
**Усміхнуўся подла так, як мне перадаваў**
**Яго: — «любовное-с! Весьма...» Я не даслухаў,**
**А ён не даказаў за звонкай аплявухай...**
**(Жандар не скрыўджаны, бо ён не без адвету,**
**Надзелі там жа мне на рукі «бранзалеты»).**

**Найлюбшая!.. Не многа ёсць мінутаў,**
**Калі астрожніка святлее смутны твар,**

**Калі запомніўшы на гэта, што закуты**
**І ўвесь аддаўшыся ўплывам пекных мар**
**Ён пераносіцца ў палац із думак ўласных.**
**Вось ты адну з такіх хвілінак шчасных**
**Тваім лістом сягоння мне падаравала, —**
**Ты гэта ад мяне не раз ужо чытала...**

**— Бывае, ведаеш, матыль часамі з волі**
**У клетку вязеня вясною заляціць,**
**Здзівіўшыся крыху, што тут не як на полі,**
**На гратах, на стале, на ложку пасядзіць,**
**Пакруціцца па цэлі, абгледзіць суфіт, сцены,**
**Зірне на каляндар, што кажа часу змены,**
**Абвее твар нявольніка, трапечучы крыламі,**
**Прылепіцца к руцэ махнатымі нагамі,**
**Заціхне, як суддзя вусамі пашаволіць,**
**Часамі дык падняць сябе з рукой пазволіць,**
**І лёгенька другой да крылляў дакрануцца,**
**Каторыя яму памогуць зноў вярнуцца**
**Туды, назад... — Ах! З ім з палёў**
**Да вязеня ўлятае жыцце: слонца, лес,**
**І дворычак стары між стромкіх тапалёў,**
**І рэчка быстрая між лозаў вузкалістых,**
**І ранкі, й вечары ў туманах серабрыстых,**
**І ўсё, што бачыў ён, што знаў, пакуль не счэз**
**Зачынены ў астрог, дзе сцены, граты й сцены!..**
**— Як госць жаданы гэны**
**Мне ліст твой быў сягоння...**

. . . . . . . . . . . . . .

**Аднак... Прасіць хачу цябе я, дарагая,**
**—Ты толькі суд рабіць над мною не спяшы —**
**Хачу прасіць... Найлюбшая, святая!**
**Пакінь пісаць ты мне... Забудзься... Не пішы!..**
**Каб знала ты, як мыслі аб няволі**
**Пасля тваіх лістоў яшчэ цяжэй гнятуць,**
**Як гэтае знаццё, што ты ужо ніколі**
**Не вырвешся адсюль, што ты навек... — Забудзь,**
**Забудзься ты аб тым, што некалі любіла, —**
**Не можаш? — Пераплач адна ўсё у душы,**
**А толькі каб мая цяжэй яшчэ магіла**
**Мяне не мучыла, — забудзься, любая;**
**Забудзься, не пішы...**

# КЛІЧ

**Гэй, народзе, трэба ўстаць,**
**Дух свой з рабства распрастаць,—**
**Чуеш: Волі зычны звон**
**Будзіць, кліча меддзю ён**
**Усе народы ўсіх старон,**
**Каб разбурыць крыўды трон.**

**Скрозь, куды-хаця зірні,—**
**Здзівіць з дзіваў дзіва-цуд:**
**У небе літары-агні**
**Свецяць ноччу і пры дні—**
**«Вызваль дух свой, рабскі люд!»**

**У гэты час праклятты будзь,**
**Хто свой карк захоча гнуць**
**Й рукі ворагу лізаць,**
**Й словы льсцівыя казаць.**

**Верш быў апублікаваны ў часопісе «Рунь», рэдактарам якога з'яўляўся Янка Купала, 20 чэрвеня 1920 г., гэта значыць, за 3 тыдні да вызвалення Мінска ад белапалякаў і за месяц да смерці самога аўтара. Гэта быў перыяд пераможнага наступлення Чырвонай Арміі.**

**Варта яшчэ звярнуць увагу, што па сваім змесце і духу верш «Кліч» блізкі да «Інтэрнацыяналу». Кожны радок яго гучыць, як набат, як заклік да паўстання, да штурму і разбурэння «крыўды трона», да вызвалення «ўсіх народаў усіх старон», а таксама як праклёцце пакорлівасці.**

**Публікацыя Уладзіміра КАЗБЕРУКА.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру Паўлаву з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.**




Барыс РАБЕНЬКІ

# ДУЭТ

Сямейнае жыццё ў Машы Гаварушкінай складвалася ўдала. Дзяцей, праўда, не было, але іх, накольні гэта магчыма, замяняў муж-кампазітар, у тым сэнсе, што за ім трэба было глядзець, як за дзіцем.

Маша лічыла б сябе шчаслівай, каб не было ў Валерыя Гаварушкіна аднаго дзівацтва. Часам ён ненадоўга зачыняўся ў сваім кабінеце, а затым на гадзіну-паўтары знікаў з дому.

На пытанне «Што ты робіш пры зачыненых дзвярах?» кампазітар загадкава ўсміхаўся і гаварыў: «Не пытайся, Машачка. Гэта мая маленькая прафесійная таямніца».

Машы гэтая маленькая таямніца прыносіла жорсткія душэўныя пакуты. Усе яе думкі зводзіліся да таго, што муж адпісвае шматлікім паклонніцам.

Аднойчы, калі пасля чарговага затворніцтва Гаварушкін апрануўся і знік за дзвярамі, Маша вырашыла прасачыць і, захоўваючы дыстанцыю, асцярожна пайшла за кампазітарам. На вакзале Гаварушкін падышоў да правадніцы, якая стаяла ля вагона, перакінуўся з ёй некалькімі словамі і працягнуў канверт.

«Значыць, я мела рацыю,— пабялела Маша.— Не інакш, як перадаў любоўнае пасланне замужняй жанчыне. А то навошта ездзіць на вакзал, прасіць праваднiцу—апусціў бы пісьмо ў скрынку, як усе прыстойныя людзі, і ўсё. Хопіць, між намі ўсё скончана!»—усхліпнула Маша і, з цяжкасцю праціснуўшыся ў трамвай, уткнулася ў нейчы мутонавы каўнер.

Дома яна, не распранаючыся, кінулася ў кабінет мужа, выцягнула верхнюю шуфляду пісьмовага стала і адразу ж убачыла чарнавік пісьма, напісанага крывым, дробным почыркам Валерыя.

«Дарагая рэдакцыя!—пісаў муж.—Мы, шахцёры сібірскага горада Пракоп'еўска, вельмі любім песні Валерыя Гаварушкіна. Просім выканаць для нас якую-небудзь новую песню гэтага самабытнага, таленавітага кампазітара».

Маша яшчэ раз прабегла вачамі пісьмо і шчасліва расплакалася.

«Вось і ўся таямніца, а я пакутавала ў здагадках, гадамі мучыла сябе. Дурненькі, прызнаўся б адразу—які дзіўны сямейны дуэт атрымаўся б! Ён стварае музыку, а я пішу пісьмы ад імя ўдзячных слухачоў».

Месяцы праз два Гаварушкіны пілі вячэрнюю каву і прывычна слухалі канцэрт па заяўках, як раптам дыктар зачытаў пісьмо ткачых з Душанбе: «Паважаная рэдакцыя! Нашай брыгадзе вельмі падабаюцца задушэўныя песні Валерыя Гаварушкіна. Яны бяруць за жывое сваёй рэдкай тэмай кахання не паміж юнакамі-дзяўчатамі, а што дзіўна, непасрэдна паміж мужам і жонкай. Пра гэта так адкрыта яшчэ ніхто не пісаў». Па просьбе працаўніц Таджыкістана, прыўзнята-ўрачыста вымавіў дыктар, гучыць песня Валерыя Гаварушкіна «У каханні і ў законе».

Валерый пабялеў і адставіў каву.

«Дык я ж ад імя ткачых Душанбе не пісаў, — са здзіўленнем застыў ён.—Выходзіць, самі работніцы настрачылі. Вось яно—прызнанне народа! Першае пісьмо ад прыхільнікаў! Нарэшце пачулі, паверылі, зразумелі! Ура-а-а!»

— Машачка!—радасна захлопаў у далоні Гаварушкін.—У мяне сёння самы шчаслівы дзень у жыцці.

— Не ў цябе, а ў нас,— асляпляльна ўсміхнулася Маша.

— Што ты маеш на ўвазе, дарагая?

— Я маю на ўвазе, любімы, што мы пачалі працаваць разам!

# ДЗІВАК-ЧАЛАВЕК...


Мал. А. ПАПОВА.

Георгій ЮРЧАНКА

# ПАРОДЫІ

## ВЯРБА І ШАМПІНЬЁН

З цёплае
вярбінкі
Я спусціў свісток.
. . . . . . . . . . . .
А ты са мной не пастаяла,
Упершыню ты уцякла.
. . . . . . . . . . . .
Як шампіньён, красуецца
Дзявочы інтэрнат.
Уладзімір КАРЫЗНА.

Вярбу спіліў надоечы,
Кару з сучка скруціў,
І вось, кажу не тоячы:
Свісток усім наўздзіў.

Мой свіст па-над пагоркамі
Узняўся ўвысь без крыл.
А ты чамусь задворкамі
Пабегла колькі сіл.

З тых пор у слыннай
вечнасці
Нямала знікла дзён.
А я у недарэчнасці
Стаю, як шампіньён.

## МАЛІТВА

Схамянулася маё маўчанне,
разамкнула вочапы душы:
падыходзяць словы, што
сяльчане,
і шчыруюць, як на кірмашы.
Сяргей ПАНІЗНІК.

Цупка словы ў ашацэ
вяслуюць,
хоць ва ўзвоні зоўна
закрычы.
Словы і князююць,
і графуюць —
То знадзейцы, то
абскубачы.

Ды на ўскрык ваярнасць
не прыстане,
Не парвецца грузавішча
ніць.
Патайма душы маёй
паўстанне
Жальны час імкнецца
засланіць.

Шапаццё плыве ў другці
паціху
Праз назоў спрамененых
вякоў.
Я хачу ачомацца хоць
крыху
Ад неперапынлівых радкоў.

Поўня слоў мяне нідзе
не кіне.
Свой тапчу ў паэзіі тачок.
Памажы ж, багіня Берагіня,
Ад трухі адвеяць брызжачок.

Павел САВОСЬКА

# БЕЗ ФАНТАЗІІ, ГАЛУБОК!

Усё пачалося з таго, што карэспандэнта рэспубліканскай газеты Мішу Сінічку рэдактар нечакана адправіў у камандзіроўку. Усё б нічога, але ў панядзелак яму не хацелася ехаць. І як ні даказваў рэдактару, што ў такі дзень вялікіх спраў не пачынаюць, ды й на календары красавалася лічба трынаццаць, нічога не выйшла — прыйшлося ехаць.

Толькі выйшаў з рэдакцыі, як успомніў, што забыў свой дыпламат.

«Пачынаецца», — падумаў ён. У яго гадамі была правераная прыкмета: калі з раніцы не павязе, то ўвесь дзень дабра не чакай.

Білет на цягнік купіў без цяжкасцей, і гэта акалічнасць яго крыху супакоіла. У купэ было двое: маладая дзяўчына ляжала на верхняй паліцы і разглядвала малюнкі ў «Вожыку», а ля акна сядзела старэнькая бабулька і чытала кніжку.

Ён паздароўкаўся, уладкаваўся за столікам, разгарнуў газету. Але чытаць не хацелася. Цягнік мякка крануўся з месца. Праз які час Сінічка прыкмеціў, што бабулька ўсё часцей і часцей пазірае на яго.

«Чаго б гэта яна? — падумаў ён. — Можа, да барады што незнарок прычапілася?»

Сінічка насіў каротную вогненна-рыжую бародку, якой вельмі ганарыўся. Ён дастаў маленькае люстэрка, зірнуў на сябе. Урэшце бабуля не вытрывала.

— От, не думала, не гадала, што мне пашанцуе разам з пісьменнікам ехаць!

Яна зняла акуляры і падала Сінічку кніжку.

— Ледзь пазнала вас, фотакартка вельмі маленькая.

— Ды вы, бабулька, штосьці наблыталі. Гэтую кніжку напісаў не я, а Альберт Міфтахутдзінаў. Ёсць такі пісьменнік, далёка жыве—у Магадане.

— Дык гэта ж ты і ёсць!

— Што вы?! Валасы ў яго чорныя, а ў мяне рыжыя, ды і бародка...

— А вусы падобныя, — не здавалася бабулька.

— Ну, гэта проста анекдот атрымліваецца, — Сінічка ўсміхнуўся.

— Бародку адпусціць можна, а валасы перафарбаваць. Цяпер так фарбуюцца, што і маці родная не пазнае.

— У мяне ж і прозвішча другое! Вось пашпарт.

Бабуля махнула рукой:

— У пашпарце адно, а на кніжцы другое! Так і даўней рабілі! Бо на дрэннай кніжцы і прозвішча сваё сорамна ставіць.

— А чым кніжка не спадабалася? Я чытаў. Добра напісана, з фантазіяй.

— Чытаў! — з усмешкай прамовіла бабуля, хітравата пазіраючы на Сінічку сваімі жвавымі чорнымі вачыма. — Раз напісаў — значыць і чытаў!

— Я ж вам сказаў: не я напісаў, не я! Разумееце?!

Сінічка схапіў газету, даючы бабульцы зразумець, што размаўляць больш не жадае.

Але старая не сунімалася.

— Вось якая моладзь нервовая пайшла. Чуць што— ужо і рукі трасуцца!

Яна змоўкла, а потым працягвала, як бы размаўляючы сама з сабою:

— Так ужо распісаў... Нават коні ў яго і тыя ўлюбляюцца. Смех ды й годзе!

— Ну, і што з таго? — Сінічка апусціў газету.

— А тое, што мая ўнучка начыталася такой вось маны, — бабуля пстрыкнула пальцам па кніжцы,—і ў адзін голас крычыць: хачу быць геолагам!

— Ну, і што ж тут дрэннага?

— А што добрага?! Усё жыццё па вашай райскай тундры бадзяцца, дзе адны камары ды звяр'ё рознае! Муж тут, яна там, а потым развод. Не ідуць, відаць, у геолагі, вось і заманьваюцца кніжкамі.

— Вось яно што... — працягнуў Сінічка і ўсміхнуўся.

— Гавораць, што ў Маскве ёсць школа такая, дзе на пісьменнікаў вучаць. Вось павучыўся там, а пасля і пачаў плесці...

— Гэта вы яму напішыце, — Сінічка паказаў на фотакартку.

— Я неяк Шукшына чытала. Во піша! Не адарвацца! Ягоных кніжак не дастаць, а ад вашых паліцы трашчаць!

Тут якраз прайшла праваднiца і аб'явіла на хаду:

— Станцыя Дуброва!

— Гэта ж мая, божухны!

— Бабуля спехам пачада ўвязваць свае клункі.

Сінічку не верылася, што праз якую хвіліну яе не будзе. Бабуля пажадала ўсім шчаслівай дарогі і, пагрозліва зірнуўшы на яго, сказала:

— Пішы без фантазіі, галубок!




З 3 па 9 жніўня

**3 жніўня, 19.20**
**НАВІНКІ КНІГАРНІ.**
Вядзе перадачу С. Панізнік.

**3 жніўня, 19.50**
**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 70-ГОДДЗЮ ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА.**

Вы ўбачыце выступленне ансамбля песні і танца «Лявоніха» Палаца культуры Мінскага трактарнага завода. Вядучая — удзельніца ансамбля Г. Ганчарэнка.

**4 жніўня, 19.50**
**«ЦІХАЕ ШЧАСЦЕ ПІСАЦЬ...» ДА 70-ГОДДЗЯ ЯНКІ БРЫЛЯ.**

У перадачы прымаюць удзел У. Калеснік, А. Кудравец, В. Іпатава, Ф. Янкоўскі.

**5 жніўня, 16.30**
**ВЫСТУПАЕ ТАНЦАВАЛЬНЫ АНСАМБЛЬ МІНСКАГА ІНСТЫТУТА КУЛЬТУРЫ.**

У яго выкананні вы ўбачыце танцы «Трасуха», «Захавай агонь», зроблены на аснове народнага танца «Панначка», «Мост масціць», «Малаточкі», якія атрымаў другую прэмію на Рэспубліканскім конкурсе на лепшы харэаграфічны твор і ўключаны ў праграму Дзяржаўнага ансамбля танца БССР.

**5 жніўня, 18.40**
**УСХОДНІЯ МАТЫВЫ У РАМАНСАХ РУСКІХ КАМПАЗІТАРАЎ.**

Выканаўцы — салісты Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР Л. Крывёнак, Г. Лукомская, А. Кеда, заслужаны артыст БССР В. Скорабагатаў, піяністка Г. Каржанеўская.

**6 жніўня, 18.45**
**ПОДЗВІГ СКАРЫНЫ. ДА 470-ГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ.**

У перадачы прымаюць удзел доктар філалагічных навук А. Лойка і кандыдат тэхнічных навук І. Шпак. Вядучы — пісьменнік С. Панізнік.

**7 жніўня, 19.50**
**НА ПРЫНЁМАНСКІХ ПРАСТОРАХ. ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС.**

Гледачы азнаёмяцца з Рэспубліканскім музеем гісторыі рэлігіі і атэізму ў Гродне, дзе праходзіла выстаўка мастакоў і народных умельцаў Гродзенскай, Мінскай і Брэсцкай абласцей, пачуюць расказ археолага М. Ткачова, які стаў ініцыятарам выстаўкі.

**8 жніўня, 12.15**
**«СПАДЧЫНА». ГАЛЬШАНЫ.**

Перадача раскажа аб рэштках помніка дойлідства — Гальшанскага замка. У ёй прымаюць удзел дырэктар сярэдняй школы ў Гальшанах Э. С. Корзун, археолаг Беларускага аб'яднання рэстаўрацыі І. Чарняўскі і рэжысёр У. Трацցякоў.

**8 жніўня, 13.05**
**СЛОВА — ПАЭЗІІ.**
Прагучаць вершы А. Лойкі.

**8 жніўня, 17.05**
**«ШЧАСЛІВАЙ ДОЛЮ НАЗАВІ...»**
Старонкі творчасці Н. Мацяш.

**8 жніўня, 19.55**
**СПЯВАЕ САЛІСТ ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА ВЯЛІКАГА ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА БССР, ЗАСЛУЖАНЫ АРТЫСТ РСФСР М. МАЙСЕЕНКА.**

**8 жніўня, 23.05**
**СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ.**
Канцэрт вакальна-інструментальнага ансамбля «Пламя».

**9 жніўня, 15.15**
**ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ.**
В. Раінчык, У. Някляеў. «Родны горад».

**9 жніўня, 17.05**
**«ЖЫЦЦЯРАДАСНЫ СВЕТ АПЕРЭТЫ».**

Спектакль Новасібірскага тэатра музычнай камедыі.

У гэты спектакль-рэвю ўключаны фрагменты з папулярных аперэт «Сільва», «Фіялка Манмартра», «Вольны вецер».

**9 жніўня, 19.50**
**«СЫН ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ».**

Старонкі жыцця і творчасці Г. І. Цітовіча.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 02241 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.



Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.